PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2109) Год XLI Беласток 13 кастрычніка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



Мікола Ваўранюк

## Хлопцы з тэлебачання

**У шоу-бізнесе няма межаў.**

**— Коля, і ты стаў бы зоркай эстрады, — кажа мне Генусь, — калі б табе такі менеджэр, як Чарэк.**

**Чарэк, гэта Цэзары Кулеша — былы футбаліст клуба „Ягелонія", цяпер уласнік фірмы *Green Star*, якая мае свой гіт-парад музыкі *disco polo* на тэлеканале *Polsat*. Генадзь Шэмет, Ян і Міраслаў Кавальскія — гэта гурт „Лідэр", адна з зорак *стайні* Кулешы.**

Хуткая, рытмічная музыка. На паркеце, у кароткіх суkenках, выкручваюцца даўганогія дзяўчаты. Мігцяць святло, рознымі адценнямі пераліваюцца бліскучыя кашулі музыкантаў. Аналогію з цыганскай капэлай узмацняюць імпазантныя пасажы гармоніка і памяшканне беластоцкага рэстарана „Асторыя". Гэта відэакліп *Suknie kolorowe*, які ўжо колькі месяцаў прэзентуецца сярод *залатой дзевяткі* агляду *Disco Polo Live* — апошнія тыдні на трэцім месцы.

Вясною гэтага года „Лідэр" здымаўся разам з вядомым музычным аглядальнікам праграмы *Teleexpress* Маркам Сяроцкім у варшаўскай Цытадэлі. Але сапраўды прафесіянальны запіс зрабілі нядаўна ў Гдыні. Песня называецца *Moja gitara* і неўзабаве павінна з'явіцца на экранах тэлевізараў.

### Няма ўжо „Рэалю"

Браты Кавальскія з Крыўца гралі па навакольных вяселлях і забавах, практычна, ад малога. Спачатку блізняты Янка і Славік, потым дайшоў малодзейшы Мірак. Шматгадовая праца над сабой, пастаяннае павышэнне музычнага ўзроўню прынеслі эфект — гурт „Рэаль" стаў узнагароджвацца на фестывалях беларускай песні, паяўляцца ў радыёперадачах „Пад знакам Пагоні". Тры яго беларускія касеты разышліся па Беласточчыне як свежыя булачкі.

Генусь Шэмет родам з Мазыра. Закончыў кансерваторыю ў Менску, працаваў музычным кіраўніком Тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Стварыў са сваіх братоў гурт „Грамада", які некалькі вакацыйных сезонаў канцэртаваў і на Беласточчыне. Цяпер працуе музычным інструктарам у фірме „Пронар" у Нарве.

— Няма ўжо ні „Рэалю", ні „Грамады", — заяўляюць згодна Янак і Генусь. — Пройдзены этап.

„Лідэр" — гэта новы гурт, новая якасць. Можа не ў сэнсе музычнага жанру, — *бо што мы раней гралі, калі не disco polo*? Змена датычыць больш характару калектыву. Узнік ён з разлікам на польскі рынак, спецыяльна дзеля камерцыйнага поспеху.

— Спачатку мы грошы пазычалі, каб куды паехаць, зайграць, — расказвае Янак, — а колькі намаганняў спатрэбілася, каб увайсці ў *Green Star*. У хаце запісалі мы дзесяць песень на польскую касету, занеслі гэта Кулешы. Ён паслухаў, *гэта вон, гэта таксама, гэта направіць, гэта можа быць*, і пусціў нас у сваю студыю. Канкурэнцыя там была забойная, кожная мінута распісаная. Але мы яксьці ўціскаліся, то начамі, то яшчэ як, і за чатыры месяцы запісалі касету. З яе і пачалося. Цяпер маем матэрыял на другую, ад якой у многім залежыць наша будучыня.

### Пра дзяўчат думаюць дырэктары

Калі ўвойдзеш у адпаведныя структуры, робіцца лягчэй. Можна скарыстаць распрацаваныя механізмы. Напрыклад, тэксты некаторых песень піша „Лідэру" *Дама* — выпускніца паланістыкі. Хопіць падкінуць ёй тэму, і на другі дзень будзе гатовы варыянт песні.

Чымсьці трапіць у вяхрушку *disco polo*, аднак, цяжэй утрымацца на хвалі. Як не будзеш увесь час эксперыментаваць, знаходзіць нешта новае, то тваё прабыванне *на topie* акажацца вельмі кароткачасовае. *Дадуць табе такога выспятка, што не паспееш агляпуцца.*

„Лідэру" памагае багаты вопыт членаў гурту і музычная адукацыя Генуся.

— Канкурэнцыя яго баіцца, — кажа Янак, — як урэжа на гармоніку, гітары або клавішах... У Кангрэсавай зале ў Варшаве публіка біла яму брава стоячы.

Пасля бязмежнага захаплення чыстай электронікай, „Лідэр" пачаў прызнаваць *жывыя* інструменты — якія гучаць цяпер у кожным іхнім творы. Гэта таксама адрознівае калектыў ад іншых і добра ўспрымаецца слухачамі. Сведчыць пра гэта безліч канцэртаў па ўсёй Польшчы. Легіянова, Варшава, Лодзь, Калобжаг, Кашалін, Рацібуж,

*(працяг на стар. 3)*

Аляксандр Вярбіцкі

## Саматужная адукацыя

Упершыню падаюся ў Бельскі беларускі ліцэй. Хвалююся адно тым, як доўга прыйдзецца мне яго шукаць; у Бельску бываў я зрэдку і мае веды пра яго тапаграфію вельмі сціплыя. Сцяжынка ад вакзала прыводзіць мяне, аднак, працюсенька ў дзверы школы, пра якую даўней у „Ніве" было зайздрасна мне, „гайнаўскаму", многа і цёпла. А цяперака — рарытэтна і да таго ж, бывае, на мінорны лад. Дзяжурныя ля ўвахода пытаюць, *czym pani pomóc*, я дзякую і накіроўваюся ў сакратарыят. Паколькі да дамоўленага тэрміну астаецца мне паўгадзіны, адмаўляюся ад прапанаванай мне гарбаты і іду прайсціся па калідорах. Ціха і прыемна тут. На дзвярах кабінетаў двухмоўныя надпісы, на сценах стэнды, таксама двухмоўныя, пра гісторыю школы, а таксама — каля трыццаці — са здымкамі і прозвішчамі выпускнікоў і іхніх настаўнікаў. На другім паверсе групка вучняў нешта паціху зазубрывае. Вяртаюся ў канцылярыю. Неўзабаве перапынак.

Спатыкаюся з настаўніцамі беларускай мовы, спадарынямі **Зінаідай Дэмянюк** і **Яўгеніяй Тарантай**. Дырэктар ліцэя, спадарыня **Зінаіда Навіцкая**, мусіць афармляць нейкія справы па-за школай. Зінаіда Дэмянюк пачынае адразу апраўдвацца перада мною, быццам я — з „Нівы" — прыехаў адно дзеля таго, каб пасыпаць тут перцам і соллю ды наварыць нейкай кашы. Вытокі гэтай насцярожанасці, якой я і спадзяваўся, бо не прыехаў сюды прыватна, і ў тым (так мне здаецца), што калісь на старонках нашага тыднёвіка ставіліся даволі вострыя закіды, што ліцэй страціў беларускі характар, а праяўляецца гэта тым, што вучні між сабою размаўляюць па-польску. Ды вось настаў час паказацца тутака і мне, калі нанесеныя раны яшчэ не зажыліся, бо клімат для гэтага з тых пор халадноваты. Выкручваюся я неяк з гэтых балоцістых каляінаў, і размова пераходзіць на навучанне беларускай мовы. Пытаю пра дыдактычную базу.

Навучанне базіруецца тутака, галоўным чынам, на падручніках, выдадзеных у Рэспубліцы Беларусь. Тычыцца гэта падручнікаў міжбальшавіцкага перыяду, у якія ўдалося пранікнуць гістарычнай праўдзе пра наша мінулае. Хаця не ўсё ў іх прыстае да нашых рэаліяў, напр. сельская гаспадарка, настаўніцы ацэньваюць іх станоўча. Падручнікі гэтыя з'яўляюцца ўласнасцю школы і вучні карыстаюцца імі толькі на ўроках. Гэтымі падручнікамі ліцэй запашваецца саматужна; найчасцей

*(працяг на стар. 5)*

# Мы прачыталі

*Włodzimierz Cimoszewicz powiedział, że szkoły w Kleszczelach i Grodnie świadczą o tym, że prawa mniejszości narodowych w Polsce i Białorusi są respektowane.*

*Kurier Poranny, nr 223*

Спадар прэм'ер-міністр! У Кляшчэлях няма ніякай беларускай школы. Ёсць нармальная польская школа, дзе пару дзесяткаў вучняў факультатыўна, дзве гадзіны ў тыдні маюць заняткі па беларускай мове. І гэта ўсё. А ў Гародні ёсць сапраўдная польская школа.

* * *

*Удумліва прачытайце тэкст Канстытуцыі, прапанаваны прэзідэнтам і паспрабуйце ўявіць сабе, якое грамадства будзе ў Беларусі, калі гэта Канстытуцыя будзе прынята на рэферэндуме.*

*У свеце ўжо былі прыклады такога грамадства, калі ўлада была ў аднаго чалавека. Дарэчы, такім чалавекам можа быць і чалавек хворы, псіхічна неўраўнаважаны, тым больш, што ў законе аб Прэзідэнце нічога не гаворыцца аб тым, што кандыдат у прэзідэнты павінен мець даведку аб стане свайго здароўя. А калі прымаецца новая Канстытуцыя, дык чаму нанава не выбраць Прэзідэнта і Вярхоўны Савет, —* сказаў старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі.

*Голас Радзімы, н-р 38*

* * *

*Polacy wymierają, zanika płodność i produktywność społeczeństwa polskiego. Sterują tym międzynarodowe siły. Jest to globalny spisek przeciwko życiu, imperialistów cios w płodność Polaków — to tezy jakie wygłosił na wykładzie w Sali Stowarzyszenia „Civitas Christiana" Marek Czachorowski z Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego.*

*Po prelekcji zaplanowano dyskusję. Pan około czterdziestki stwierdził, że za tym wszystkim pewnie stoją Żydzi, zaś siedzący na sali ksiądz potępił edukację seksualną w szkołach.*

*Kurier Poranny, nr 219*

Няспынна развіваецца інтэлектуальнае і культурнае жыццё горада Беластока.

* * *

*Nakładem nowojorskiego wydawnictwa Doubleday ukazała się książka „Jego Świątobliwość Jan Paweł II i ukryta historia naszych czasów", opiewająca szczegóły współpracy Watykanu z CIA w popieraniu „Solidarności". Amerykański reporter Carl Bernstein i włoski dziennikarz Marco Politi twierdzą, że administracja Reagana wydała w latach 1982-1984 ponad 50 mln dol. na pomoc polskiemu podziemiu, a dyrektor agencji wywiadowczej CIA Wiliam Casey i specjalny wysłannik Reagana generał Vernon Walters aż 15 razy odbywali w Watykanie tajne narady z Papieżem.*

*Podziemna „Solidarność" otrzymała od rządu amerykańskiego — bezpośrednio od CIA lub za pośrednictwem centrali związkowej AFL-CIO i Narodowej Fundacji Demokracji — ogromne ilości pieniędzy i wyposażenia technicznego.*

*Gazeta Wyborcza, nr 218*

* * *

*Ludzie głosują na SLD dlatego, żeby Jan mógł kupić w kiosku prezerwatywy, a Mańka w razie czego mogła pójść do szpitala na „zabieg". Co więcej, demokracja sprawia, że za wszystkie grzechy winna jest „lewica", a nie Jan czy Mańka. Dla oczyszczenia sumienia idą oni do kościoła, ale na partie katolickie nigdy nie głosują.*

*Wprost, nr 38*

Цяжка ім будзе аформіць пропуск у неба.

* * *

*Тры чвэрці школ у Беларусі знаходзяцца ў сельскай мясцовасці, аднак у іх вучыцца ўсяго толькі чвэрць усіх вучняў. Сярод пачатковых школ 35 працэнтаў маюць менш чым 14 вучняў, 31 працэнт — да 40 вучняў.*

*Наша слова, н-р 33*

Памірае наша нацыя — не толькі на Беласточчыне.

* * *

*Uchwałą Sejmu jednostki Ochotniczej Straży Pożarnej uzyskały zgodę na sprzedaż alkoholu. Teraz na wsi można będzie pić. Waldemar Pawlak załatwił zmianę ustawy o wychowaniu w trzeźwości, która zobowiązuje także gminę do walki z alkoholizmem. Będzie to pijana w trupa wieś, walcząca z alkoholizmem. Biedna, brudna i pijana polska wieś. Ale o tym, że ona coraz bardziej się degraduje i spycha w dół się nie mówi. Mówi się natomiast bez przerwy o szkodliwości pornografii dla narodu polskiego.*

*Wprost, nr 38*

Цікава, што некаторыя дзядзькі алкагалізм успрымаюць як нешта мала шкоднае, а ўжо здымак прыгожай жанчыны, якая забылася апрануцца, ідучы да фатографа — як нешта пагражаючае інтарэсам нацыі. Нам здаецца, што ўсё ёсць наадварот!

* * *

*Na procesie Bolesława Tejkowskiego, przywódcy skrajnych narodowców, zeznawał biegły socjolog. Adwokat oskarżonego pytał biegłego czy z pochodzenia jest Żydem czy Niemcem i jakie jest jego prawdziwe nazwisko.*

*Polityka, nr 38*

# З мінулага тыдня

**Савет Еўропы** папярэдзіў Беларусь, што яе шанц стаць членам гэтай арганізацыі можа быць страчаны, калі ўлады не будуць прытрымоўвацца канстытуцыі і дэмакратычных прынцыпаў. СЕ патрабуе, каб прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адтэрмінаваў планаваны на лістапад рэферэндум у справе канстытуцыі, якая ў значнай ступені пашырае паўнамоцтвы прэзідэнта.

**Юр'еўскі прыход** — дзесяты праваслаўны прыход у Беластоку — створаны дэкрэтам архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага **Савы**. Настаяцелем прыхода ў квартале Новае Места, які налічвае каля тысячы вернікаў, назначаны а. **Рыгор Місіюк**. Урачыстасць пасвячэння часовага храма адбылася 29 верасня.

**Радыё Беласток** адзначала сорак чацвёртую гадавіну сваёй дзейнасці. З гэтай нагоды радыёстанцыя адкрыла дзверы для сваіх слухачоў і стварыла ім магчымасць пабываць у студыі і наглядаць за працай радыёжурналістаў.

**У адзінаццаці беластоцкіх ВНУ** новы навучальны год пачало 27 тысяч студэнтаў, у тым ліку 7 тысяч першакурснікаў. Вучацца яны ў пяці дзяржаўных вышэйшых установах, каталіцкай духоўнай семінарыі і пяці вышэйшых непублічных школах.

**Сельскагаспадарчай палаты** ў Беластоцкім ваяводстве пакуль што не будзе. Выбары, якія адбыліся ў апошнюю нядзелю верасня, прыцягнулі толькі 16,9% выбаршчыкаў (неабходна 20%) са 102 075 сялян упаўнаважаных да галасавання. Найменш сялян наведала выбарчыя ўчасткі ў Сямятычах (2%), Орлі (3,3%) і Нурцы-Станцыі (3,8%). Паўторныя выбары будзе можна правесці праз паўгода, калі 5 104 чалавек падтрымаюць гэтую ініцыятыву.

**На аўтазаправачных станцыях** выстрайваюцца чэргі за дызельным палівам. На думку апазіцыйнага пасла Сейма **Кшыштофа Вольфрама**, адказнасць за брак паліва на рынку нясе ўрад. Абвяргнуў ён тлумачэнні ўрада, што гэта часовыя клопаты, выкліканыя ростам цэн нафты на сусветных рынках. Прыгадаў ён таксама, што Унія вольнасці не раз папярэджвала чарговыя ўрады аб неабходнасці паскарэння прыватызацыі і рэструктурызацыі паліўнага сектара перад надыходам тэрміну вызвалення цэн паліва. Прыватызацыя, на яго думку, павінна прывесці да поўнай і трывалай стабілізацыі абароту палівамі ў Польшчы.

**Антылітоўскія надпісы** пасля некалькіх месяцаў перапынку зноў з'явіліся ў Сэйнах. Невядомыя злачынцы „упрыгожылі" імі аўтобусны прыпынак і будынак банка ПКО, у гасцініцы якога жывуць консул і віцэ-консул Літоўскай Рэспублікі разам з сем'ямі. Раней, у канцы жніўня, літоўскія дзеячы прыкмецілі знішчаную магілу літоўскіх дабраахвотнікаў, якія загінулі ў час польска-літоўскай вайны ў 1920 годзе і былі пахаваны ў Бэржніках.

**Па просьбе беларускай міліцыі** беластоцкія паліцыянты правялі вобыск у таварыскіх агенцтвах Беластока ў пошуках двух 21-гадовых грамадзянак Беларусі, якія прапалі ў Гродне. Беларуская міліцыя меркавала, што дзяўчаты выехалі ў Польшчу і там прымушаюць іх аказваць сексуальныя паслугі ў адным з беластоцкіх „дамоў роскашы". Калі паліцыянты з'явіліся ў адным з агенцтваў, уладальнік і „паненкі" ўцяклі праз... акно. Аднак паліцыя затрымала шэсць жанчын (ва ўзросце 18—36 гадоў) і пасля допыту выдварыла іх з Польшчы. У іх ліку не было прапаўшых у Гродне дзяўчат.

# Вecткі з Беларусі

**Выдварэнне тэлебачання**

Вярхоўны Савет прыняў пастанову, якая забараняе Беларускаму тэлебачанню ўступ у парламент з прычыны „парушэння ім права і канстытуцыі" і „пасляоўнага неаб'ектыўнага і тэндэнцыйнага" інфармавання аб пасяджэннях ВС. Парламент забавязаў свайго спікера звярнуцца да ўрада і кіраўніцтва тэлебачання Расейскай Федэрацыі з просьбай адвесці больш часу на перадачы аб працах Вярхоўнага Савета РБ. У Менску прымаюцца чатыры каналы расейскага тэлебачання з Масквы і Санкт-Пецярбурга. „Няма ў нас беларускага тэлебачання, — сказаў старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня. — Ёсць толькі прэзідэнцкае тэлебачанне".

**Пасля лаянак — віншаванні**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з шасцідзесяцігоддзем. „Упэўнены, што як кіраўнік Вярхоўнага Савета Вы будзеце рабіць усё, што ад Вас залежыць, для працвітання нашай краіны. У дзень юбілею жадаю моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту Вам і Вашай сям'і", — адзначыў прэзідэнт у віншаванні.

**Не майстраваць пры канстытуцыі**

Канстытуцыйны суд РБ лічыць, што стабільнасць у грамадстве забяспечваецца перш за ўсё стабільнасцю яго асноўнага закону, безумоўным выкананнем канстытуцыі ўсімі без выключэння дзяржаўнымі органамі. У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд прапануе і прэзідэнту, і дэпутатам Вярхоўнага Савета, якія ініцыявалі ўнясенне праектаў канстытуцыі на рэферэндум, адклікаць свае прапановы.

**Заява камуністаў**

На сесіі Вярхоўнага Савета аб'яўлена была сумесная заява 70 камуністаў і аграрыяў. Чарговы раз прадстаўнікі дзвюх найбуйнейшых фракцый пагадзіліся з прынцыпамі, выкладзенымі ў звароце ВС да дэпутатаў і прэзідэнта адклікаць праекты змяненняў і дапаўненняў у канстытуцыю, якія выносяцца на рэферэндум. Камуністы і аграры заявілі аб гатоўнасці адклікаць свой праект канстытуцыі і заклікалі прэзідэнта таксама праявіць добрую волю.

**Цэнтрвыбаркам рыхтуецца**

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў разгледзела пытанне правядзення 24 лістапада рэспубліканскага рэферэндуму. Пастановай Цэнтрвыбаркама зацверджаны формы дакументаў па правядзенні рэферэндуму, а дзяржаўным сродкам масавай інфармацыі даручана забяспечыць роўныя магчымасці агітацыі па пытаннях рэферэндуму.

**Дэлегаты выбраны**

На Гродзеншчыне завяршылася вылучэнне дэлегатаў усебеларускага народнага сходу, які рыхтуе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. На гэты форум працоўныя калектывы вылучылі 650 пасланцоў, сярод іх 118 кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, 99 рабочых і сялян, 89 прадстаўнікоў органаў выканаўчай улады. У сходзе прымуць удзел прадстаўнікі многіх партый і рухаў, група ветэранаў, сярод якіх некалькі герояў сацыялістычнай працы і Герой Савецкага Саюза. Амаль кожны чацвёрты дэлегат ад Гродзеншчыны — жанчына.

**Камп'ютэрная карта**

Беларускі інстытут інфармацыі і прагнозу Адміністрацыі Прэзідэнта завяршыў распрацоўку камп'ютэрнай карты Беларусі. Адбылася афіцыйная прэзентацыя гэтай навінкі. Камп'ютэрная карта дае магчымасць атрымаць графічную, тэкставую і гукавую інфармацыю пра розныя аспекты дзелавога і грамадскага жыцця рэспублікі. У спецыяльным раздзеле змешчаны камерцыйныя прапановы беларускіх прадпрыемстваў, адрасаваныя патэнцыяльным інвестарам. Карта стане таксама выдатным даведнікам для турыстаў і бізнесменаў. Першая версія выканана на англійскай і рускай мовах.

**Сустрэча з Бураўкіным**

Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы працягвае цыкл вечарын „З Купалам у сэрцы". Нядаўна адбылася сустрэча Генадзя Бураўкіна — лаўрэата прэміі імя Янкі Купалы. На сустрэчу з высокай паэзіяй — паэзіяй дабрыні і радасці — прыйшлі вядомыя паэты і пісьменнікі, шчырыя прыхільнікі таленту паэта. Да гэтай падзеі прымеркавана была выстава з асабістага архіва паэта і фонду Музея Янкі Купалы.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Новая бальніца ў Гайнаўцы.
- Гандаль гарэлкай на Беласточчыне.
- Гістарычная канферэнцыя ў гонар Яраслава Кастыцэвіча.

# Хлопцы з тэлебачання

*(працяг са стар. 1)*
Апатаў, Пярэмышль, Яраслаў, Краснік, Цехацінак, Кентшын... — пералік можна весці бясконца.

Большасць канцэртаў і дыскатэк арганізуе фірма. Займаецца таксама распаўсюджваннем касет, рэкламай.

— У шоу-бізнесе за цябе думаюць дырэктары, — сцвярджае Генусь.

Фірма плаціць шалёныя грошы за час у тэлебачанні, арганізуе запіс відэакліпаў: шукае і аплачвае рэжысёра, афарміцеляў сцэны, апаратараў камеры і найважнейшую дэкарацыю — дзяўчат з доўгімі нагамі.

— Адна вядомая беларуская дзяячка ўжо так нас крытыкавала, што мы пайшлі ў *disco polo*, — гаворыць Янак, — а тым часам яе дачка танцуе ў відэакліпах.

**Найцяжэй дома**

Хлопцы лічаць, што ў нашым рэгіёне нешта не ладзіцца, калі такія групы як „Лідэр" ці „Ас" мусяць ездзіць за край свету.

— Баліць мне тое, што я не магу граць на Беласточчыне, сваім людзям, — жаліцца Янак, — але скончыўся час, калі хтосьці будзе граць дарма, а іншы за гэта возьме грошы. Ва ўсіх нас ёсць сем'і, на якія ж трэба зарабіць. З добра сарганізаванага канцэрта даход павінен быць і арганізатару, і менеджэру, і калектыву.

У *стайні* Кулешы каля дваццаці гуртоў з Беластока і ваколіцы, якія лічацца на рынку. У многіх — *нашы* хлопцы. Часта ў музыцы *disco polo* выкарыстоўваюцца ўсходнія матывы. Тым часам няма беларускае плыні ў гэтым жанры.

— Найбольш у нас прэтэнзій да Беларускага грамадска-культурнага таварыства, што зусім нас згубілі з вачэй. Але іншыя арганізацыі, асяроддзі таксама не праяўляюць зацікаўлення нашай музыкай, быццам бы людзям была яна чужая. Вопыт раз'ездаў па ўсёй Польшчы паказвае штосьці адваротнае — усюды нас прымаюць з адкрытымі рукамі, усюды слухаюць нас тысячы і найбольш падабаецца менавіта тое, што з усходу.

Надзея ў тым, што кансерватыўныя па характары беларусы адкрыюцца на новыя з'явы і ў музыцы перастане абавязваць фальклор (у самых розных варыянтах). Сваіх слухачоў знойдуць і барды, і рокеры, і выканаўцы *disco polo*.

— А можа так беларускі фестываль *disco polo*?

У Янка загараюцца вочы:

— О, гэта была б ідэальная справа!

**Мікола ВАЎРАНЮК**



*Злева: Ян і Міраслаў Кавальскія ды Генусь Шэмет у мясцовасці Руцянэ-Ніда.*

# Слабенькі рускі сігнал

У Бельску, дзякуючы новай лічбавай тэлефоннай станцыі, з'явілася магчымасць падключыць тэлефон практычна ўсім жадаючым. Апошнім часам пачалі таксама па мікрараёнах пракладаць кабельную сетку тэлебачання са спадарожніка. Такім чынам жыхары горада, не выходзячы з цёплых кватэраў, маюць сувязь з усім светам. Ну, можа амаль з усім, бо напрыклад, калі каму прыйдзе ў галаву фанаберыя паглядзець якуюсьці рускую праграму — на жаль, не атрымаецца.

Нямецкія, брытанскія, амерыканскія, французскія, італьянскія і нават, здаецца, іспанскія — калі ласка. Але рускія, — як кажуць у суполцы *„z o.o." Projekt. Telewizja kablowa*, — высылаюць у эфір заслабы сігнал. На пытанне, чаму ўладальнікі прыватных спадарожнікавых антэн могуць глядзець дабраякасныя Астанкіна ці Санкт-Пецярбург, адказваюць там: „Гэта залежыць, што для вас значыць добрая якасць".

Манцёраў абавязваюць дэцыбелы і іншыя параметры. Абы-чаго яны ў нашых тэлевізарах ставіць не могуць. Гэта, так сказаць, для дабра нашых вачэй. Вушы менш важныя. **(ак)**

# Пушчанская газета

Белавежа дачакалася сваёй газеты. Называецца яна „Białowieżanin" (Белавежац). Выдаецца яна па заказу Рады гміны Белавежскім асяродкам культуры і Публічнай бібліятэкай. Дагэтуль выйшлі пробны, нулявы і першы нумары (гэты апошні з датай 10 верасня г.г.). „Białowieżanina" рэдагуе і складае Анджэй Антчак, гмінны радны і заадно працаўнік (эколаг) Надлясніцтва Белавежа. Самаўрадавая газета выходзіць тыражом 100 экземпляраў. Частатнасць выхаду пакуль яшчэ не ўстаноўлена.

У першым нумары знаходзім між іншым інфармацыі аб ходзе XVII сесіі Рады гміны. Рэкамендуюцца ў ім Лясная галерэя Тамары Тарасевіч, новае турыстычнае бюро „Setec-Tour" і Спартыўнае таварыства „Зубр". Можна таксама пазнаёміцца з ходам прац пры падрыхтоўцы святкавання 400-годдзя Белавежы, даведацца, на што прызначаны грошы з Фонду Белавежскай пушчы і як павялічана плошчу Белавежскага нацыянальнага парку. **Пётр БАЙКО**

# Грунт пад спекуляцыю

У палове верасня, у самы разгар асенніх палявых работ, ва ўсёй Польшчы не хапіла саляркі. Гаспадары, замест таго, каб заворваць парудзелую пожню ці капаць бульбу, выстраілі трактары ў чэргі ля аўтазаправачных станцый. Як ні дзіўна, крызіс яшчэ мацней адчулі тыя, у каго няма свайго трактара — пераважна старэйшыя людзі, якія своечасова не памянялі жывога каня на механічнага. Канём рабіць поле няма ўжо сілы, дык дажываюць, карыстаючыся паслугамі *kółka*, дзе яно яшчэ трымаецца, або суседзяў.

*Kółka* ўжо ў пачатку паліўнага крызісу здалі пазіцыі і не праяўлялі вялікай настойлівасці ў пошуках дызельнага паліва. Механізаваныя гаспадары, у каго і завёўся які запас, баяліся яго вычарпаць. Які дурань паедзе араць поле суседу, рызыкуючы сваё пакінуць аблогай.

Крызіс працягваецца. Эканамічныя аўтарытэты спрачаюцца, ці законічыць яго аднаразовае павышэнне цаны паліва, ці толькі структуральныя пераўтварэнні ў польскай нафтаперапрацоўчай прамысловасці. А тым часам сярод простых людзей ажываюць старыя, характэрныя дэфіцытнай сацыялістычнай гаспадарцы, звычкі.

Браў я ў Бельску бензін у аўтамашыну. На станцыі была інфармацыя, што саляркі няма. Працаўнік, аднак, сказаў, што пэўная колькасць ёсць — дзяржаўным прадпрыемствам. Слова за словам разгаварыліся мы пра крызіс, пра цяжкую сітуацыю на вёсцы, работу ў полі. Калі я скончыў запраўляць машыну, працаўнік станцыі проста спытаўся:

— A dużo pan ropy potrzebuje?

**М. КУЛАШ**

# Яшчэ адзін фэст

Рэдакцыя „Нівы" атрымала запрашэнне на *Monieckie Dni Ziemniaka'96*, якія адбыліся там 28 і 29 верасня. Монькі распаложаны ў паўночна-заходняй частцы беластоцкага ваяводства, зусім супрацьлеглай да „нашай". Варта, аднак, прысвяціць пару слоў своеасаблівай гісторыі гэтага горада. У 50-я гады была праведзена ў нашай краіне адміністрацыйная рэарганізацыя, у выніку якой паўстала шмат новых паветаў; у іх ліку Гайнаўскі і Сямятыцкі. Быў вызначаны і павет у згібе ракі Бобры, у склад якога ўвайшлі два гарады, Кнышын і Гонязь, аднак яны апынуліся на супрацьлеглых акраінах вызначанай тэрыторыі. І ўлады, па-саламонаваму, вырашылі, што павятовая сядзіба будзе ў Моньках, распаложанай цэнтральна касцельнай вёсцы. Адзін з жыхароў Монькаў сказаў мне, што налічвалі яны тады 14 хатаў. Адміністрацыйнае павышэнне вызвала рост мясціны, у 1965 г. атрымала яна гарадскія правы і сёння налічвае амаль 11 тысяч жыхароў. Вёскі ў наваколлі горада называюцца як і ў нас: Войшкі, Калодзеж, Калеснікі, Дзежкі, Кісляк. У 70-я гады Монькі асацыяваліся з масавымі заробкавымі выездамі за „вялікую калюжыну", якія пазней перасталі быць толькі тамашняй „спецыяльнасцю".

Свята бульбы ладзіцца тут ад 16-ці гадоў. Пры камуне праводзілася яно пад лозунгам „Ziemniak — królem jesieni", які сцэнуў разам з параманархічнымі дзяржаўнымі структурамі. Цяпераka гэта свята дзелавое, арганізаванае тамашняй Управай горада і гміны, галоўным кампанентам якога з'яўляецца сельскагаспадарчая ярмарка. Былі тут прапанаваны трактары „Ursus", машыны для сарціроўкі бульбы, арашальныя сістэмы, штучныя ўгнаенні, кармілкі і паілкі для жывёлы, упаковачныя машыны, ядахімікаты, інфарматычныя сістэмы, прызначаныя для патрэбаў сельскай гаспадаркі а нават гарэлка, піва і машына хуткай дапамогі. Ну і, галоўным чынам, прапанаваліся розныя сарты бульбы. Імпрэза мела, аднак, яшчэ і другую мэту. Апрача прадстаўнікоў навукова-даследчых інстытутаў ды вытворцаў машын і абсталявання былі сюды запрошаны і прадстаўнікі ўлад, а галоўным патронам быў віцэ-прэм'ер і міністр сельскай гаспадаркі Роман Ягялінскі. Не паявіўся, аднак, ён, толькі сам прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч. Паінфармаваў ён, што на будучы год прадугледжваецца павысіць бюджэтныя асігнаванні на сельскую гаспадарку на 19%. Згануў ён таксама пра перспектыву будовы завода для перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, прычым выглядала гэта ўжо як факт. Месцам яго — вядома — Монькі. Відаць, В. Цімашэвіч зацікавіў ужо нейкі „капітал" тутэйшымі магчымасцямі. Дні бульбы, як прамоцыя мясцовых і вонкавых вырабаў, былі акрашаны таксама і фальклорным фэстам. Не быў ён, так як гэта ў нас завялося, галоўным, а галоўным быў клопат пра будучыню, пра збыт для мясцовай вясковай прадукцыі, пра новыя месцы працы ў горадзе. Гаспадары Монькаў не збаўляюць тэмпа, а карыстаюцца такою выдатнай нагодай, якою з'яўляецца атаясамліванне галавы ўрада з нашай Беласточчынай.

Магчыма, што ў нашых старонках усё складваецца выдатна і без клопатаў, аднак не бывала так, каб не магло быць яшчэ лепей. Варта тады было б прыглянуцца добраму прыкладу і ім пакарыстацца. Мець таксама трэба надзею, што Цімашэвіч у якасці прэм'ер-міністра, можа не так доўга як Цыранкевіч, будзе мець магчымасць пахваліцца дзе-каму прысутнасцю на нашым фэсце. І што на такі фэст прыедзе не толькі пасол Сяргей Плева, які быў і ў Моньках, але і дзелавыя людзі. А фэст (лац. festum — свята) — гэта свята не толькі фальклору, але і бульбы таксама.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Забытая хата

У вёсцы Белкі, што ў Нарваўскай гміне, стаіць старэнькая, забытая хата. Пабудавалі яе каля 1920 года, калі людзі вярталіся з бежанства. Гэтая невялікая аднапакаёвая хата пакрыта саломай. Спаглядае яна на свет чатырма ваконцамі. У сярэдзіне — гліняны ток.

Стаіць хатка ды чакае свайго канца, так як чалавек дажывае свайго веку. Яе ўласніцы, Вользе Емяльянюк, перавaліла ўжо на дзевяты дзесятак. Не будзе яна рамантаваць хату, бо жыве ў мужавай.

Варта, каб нашы этнографы і энтузіясты музейнай справы пацікавіліся гэтым прыкладам жыллёвага будаўніцтва нашых дзядоў і бацькоў. Можа за невялікія грошы ўдалося б купіць хатку і перавезці яе ў скансэн або музей. Нельга дапусціць, каб бясследна прападалі помнікі нашай матэрыяльнай культуры. **Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

Словы шчырага спачування
з прычыны смерці
**Яна НАЗАРУКА**
жонцы, дзецям і сям'і
выказваюць
Дырэкцыя школы
і настаўніцкі калектыў
у Нарве.

# Доктар Грабінскі

Сярод актыўных дзеячаў беларускага вызвольнага руху было шмат настаўнікаў, юрыстаў, урачоў. Былі яны спецыялістамі высокай кваліфікацыі. Некаторыя цалкам аддаваліся палітычным справам, а іншыя не маглі парваць са сваёй любімай працай. Яны былі патрыётамі і вельмі перажывалі за лёс Бацькаўшчыны, дапамагалі матэрыяльна беларускім незалежніцкім арганізацыям, але самі не хацелі займацца палітыкай. Праўда, іншы раз абставіны прымушалі іх уключыцца ў палітычную дзейнасць вызвольнага руху, і заўсёды шчыра і ахвярна выконвалі свае абавязкі перад Радзімай. Адным з гэтых людзей быў доктар Баляслаў Грабінскі.

* * *

Баляслаў Грабінскі нарадзіўся 3 жніўня 1899 г. у вёсцы Урачыншчына на Дуброўшчыне. Пра яго дзяцінства і адукацыю амаль нічога невядома. Ёсць толькі звесткі, што Грабінскі вучыўся ў Гродзенскай гімназіі і быў там сябрам нелегальнага гуртка беларускай моладзі. Не маю вестак і пра тое, дзе ён атрымаў вышэйшую адукацыю.

У міжваенны час Баляслаў Грабінскі жыў і працаваў у Вільні лекарам-дантыстам, меў шырокую практыку. Сябра Рады БНР Віталь Кажан успамінае, што нават віленскі ваявода пан Бацянскі, заядлы вораг беларушчыны, свае зубы лячыў у доктара Грабінскага.

Грабінскі, будучы шчырым беларусам і маючы добрае матэрыяльнае становішча, дапамагаў грашыма беларускім арганізацыям, перш за ўсё Беларускаму навуковаму таварыству, якога ён быў віцэ-старшынёй, Беларускаму музею імя І. Луцкевіча, беларускай студэнцкай моладзі, беларускім газетам і часопісам нацыянальнага характару. Ён не займаўся палітыкай, бо ведаў, што кожны павінен займацца сваёй справай.

Калі ў верасні 1939 г. у Вільню прыйшлі бальшавікі, Б. Грабінскі не быў арыштаваны. Нейкі час ён апекаваўся Беларускім музеем, бо яго дырэктар Антон Луцкевіч знік праз НКУС. Пад літоўскай акупацыяй доктар Грабінскі ўваходзіў у групу ксяндза В. Гадлеўскага, якая выпрацоўвала беларускую незалежніцкую ідэалогію.

Пачатак нямецка-савецкай вайны актывізаваў дзейнасць беларускага нацыянальнага актыву ў Вільні. Ужо ў ліпені 1941 года тут арганізаваўся Беларускі нацыянальны камітэт на чале з прафесарам В. Іваноўскім, другім намеснікам якога быў Грабінскі. Камітэт бараніў беларускае насельніцтва перад тэрорам літоўскае паліцыі і нямецкай службы бяспекі. За кароткі час, з Вільні на Беларусь для працы ў грамадзянскай адміністрацыі было адпраўлена шмат беларускіх патрыётаў.



У 1942 годзе Баляслаў Грабінскі і Станіслаў Грынкевіч (старэйшы), у ліку 12 вядомых віленскіх грамадзян, былі арыштаваны літоўскай паліцыяй. Адбылося гэта пасля забойства польскім падполлем літоўскага паліцыйнага начальніка. Палову арыштаваных адразу расстралялі, а іншых, у тым ліку і Грабінскага з Грынкевічам, вывезлі на цяжкія працы ў лес. Там доктар Грабінскі і прафесар Вільчынскі „спушчалі з пня тоўстыя сосны”. Толькі заступніцтва БНК перад немцамі выратавала жыццё беларусім інтэлігентам.

У жніўні 1942 г. кіраўнік Камітэта Язэп Малецкі паехаў на працу ў Баранавічы. Паўстала пытанне пра новага старшыню. Малецкі пазней пісаў: „З вялікім трудам удалося нам упрасіць доктара Б. Грабінскага, каб ён ачоліў Камітэт”.

Падчас нямецкай акупацыі доктар Грабінскі займаў пасаду асістэнта пры кафедры анатоміі медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта. Калі ў 1943 годзе ў Новую Вілейку быў эвакуіраваны Магілёўскі медыцынскі інстытут, яго дырэктар прафесар Сцяпанаў запрасіў Б. Грабінскага на кіраўніка кафедры анатоміі і на выкладчыцкую працу.

Летам 1944 года Грабінскі выехаў у Нямеччыну, бо ўжо не выпадала спадзявацца на літасць бальшавікоў. Старшынства ў БНК цягнула на „вышку”... Пасля Нямеччыны разам з сям'ёй ён пераехаў у ЗША, спачатку жыў у Чыкага. Тут Грабінскі працаваў ужо не дантыстам, а простым лекарам. Падтрымліваў беларускія арганізацыі, быў сябрам Рады БНР, БІНІМа і БАЗА. У лістападзе 1975 г. доктар Грабінскі пераехаў з сям'ёй у Лонгвуд (Фларыда). У гэтым горадзе і скончыў ён свой зямны шлях 20 жніўня 1991 года.

**Сяргей ЁРШ**

# Непатрэбны парламент

27 верасня Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь забараніў уваход у свае памяшканні журналістам лукашэнкаўскага радыёвяшчання і тэлебачання. Парламент адначасова прадставіў спікеру Сямёну Шарэцкаму паўнамоцтвы правесці размовы з кіраўніцтвам расейскага тэлебачання наконт пашырэння ў іхніх перадачах інфармацыі аб працы заканадаўчага органа Беларусі. Расейскае тэлебачанне ёсць даступнае ўсім тэлегледачам Беларусі. Ужо некалькі тыдняў лукашэнкаўскія сродкі масавай інфармацыі вядуць жорсткую вайну з Вярхоўным Саветам. Метады прапаганды такія ж, як перад майскім рэферэндумам 1995 года. Мэтай, так як і тады, з'яўляецца выклікаць у тэлегледача пагарду да палітычных апанентаў прэзідэнта. Славуты фільм Азаронка „Нянавісць” пры дапамозе адпаведнага мантажу стужкі з некалькіх дакументальных фільмаў паказваў сучасную дэмакратычную апазіцыю на фоне беларускіх калабарацыяністаў часоў II сусветнай вайны.

Трансляцыя з Вярхоўнага Савета давала гледачам лукашэнкаўскага тэлебачання магчымасць толькі пачуць і пабачыць тыя фрагменты выступленняў дэпутатаў, якія падтрымоўвалі прэзідэнта ці проста кампраметавалі парламент. Найчасцей былі гэта вырваныя з кантэксту пасобныя фразы прамоў дэпутатаў, а дапаўненнем — каментары прафесіянальных прапагандыстаў.

27 верасня галоўная інфармацыйная праграма „Панарама” проста пераўтварылася ў нейкую сатырычную тэлеперадачу. Двойчы ў гэтым выпуску навінаў дэманстраваўся быццам бы рэпартаж з сесіі Вярхоўнага Савета, дзе аднаго з дэпутатаў паказвалі, як адварочвае галаву ўбок, каб нешта сказаць суседу. Мантаж стужкі зроблены быў так, што чалавек хуткім рухам паўтарае некалькі разоў гэты самы жэст галавою, выклікаючы ў тэлегледача ўражанне неўраўнаважанага асобення. Іншага дэпутата схапілі ў сітуацыі, калі нейк дзіўна меў адкрыты рот. Тут камера затрымалася амаль на хвіліну. Некага тэлекамера злавіла, калі прамаўляючы выканаў жэст рукою. Апрацаваны прэзідэнцкімі журналістамі матэрыял прадстаўляў яго быццам бы псіхічна хворага. Гэты рэпартаж, зразумела, быў упрыгожаны адпаведным каментарыем. Праўдападобна задумай кіраўніцтва тэлебачання было выклікаць у тэлегледача толькі адно пытанне: дзе трэба пасляць дэпутатаў — у турму ці ў псіхушку? Тэхніка падрыхтоўкі галоўнага інфармацыйнага выпуску навінаў была вельмі падобнай на сатырычную праграму „Dziennik Telewizyjny” Яцка Фэдаровіча ў польскім тэлебачанні. Найбольш шкоднае для будучыні Беларусі ёсць тое, што змаганне прэзідэнта за пашырэнне свае ўлады ідзе шляхам дэмаралізацыі грамадзян.

**(ям)**

# Суверэнітэт — аснова палітыкі

27 верасня нашу рэдакцыю наведалі новы саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандр Літоўка і генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў. У сувязі з тым, што наша рэдакцыя ніколі не праяўляла энтузіязму да таго, што ў двух апошніх гадах адбывалася ў Беларусі, нам цікава было паслухаць аргументаў прадстаўніка ўлад, якія расславілі краіну на ўвесь свет.

Аляксандр Літоўка, сын афіцэра Савецкай Арміі, шмат гадоў жыў і вучыўся ў Легніцы. Пасля яшчэ некалькі разоў наведваў Польшчу. Будучы ў рэдакцыі, выказваў ён сваё захапленне тэмпамі пераўтварэнняў у краіне, у якой толькі што пачаў дыпламатычную службу. Дыпламат размаўляе на польскай мове, на беларускай усё разумее.

Падчас кароткага візіту ў нашай рэдакцыі спадар Літоўка прадставіў прынцыпы палітыкі кіраўніцтва Рэспублікі. Суверэнітэт Беларусі, — сказаў саветнік пасольства, — гэта аснова нашай палітыкі. Гэты пункт гледжання падтрымлівае знакамітая большасць грамадзян краіны. Другім пазальнікам палітыкі дзяржаўных улад з'яўляецца захаванне цеснага супрацоўніцтва з Расіяй, што адпавядае таксама волі большасці беларускага народа.

На пытанне галоўнага рэдактара „Нівы” Яўгена Мірановіча, ці ёсць таксама акрэсленыя напрамкі гаспадарчай палітыкі, накіраваныя на паўстрыманне пастаяннага руху ўніз усіх паказчыкаў беларускай эканомікі, спадар саветнік адказаў, што дакументы ў гэтай справе друкаваліся ўжо ў прэсе. Рэфармаванне гаспадаркі замаруджваецца таму, што кіраўніцтва краіны шукае найлепшых варыянтаў і хоча пазбегнуць тых памылак, якія, напрыклад, былі дапушчаны ў Польшчы. Лукашэнка — паводле спадара Літоўкі — выйграў выбары таму, што прапанаваў іншы спосаб вырашэння гаспадарчых і грамадскіх праблемаў, імкнуўся пазбегчы крымінальных метадаў прыватызацыі. Мы звярнулі ўвагу, што галоўны ўдар дзяржаўнай прапаганды пайшоў на змаганне з г.зв. камерсантамі, стваральнікамі беларускага прыватнага бізнесу, а не з сапраўднымі крымінальнікамі ў галіне гаспадаркі. Спадар Літоўка адказаў, што вінаватая ў гэтым адсутнасць заканадаўчых нормаў. Некаторыя законы родам з шасцідзесятых гадоў, дзе нармальная сучасная гаспадарчая дзейнасць, акрэсленая, напрыклад, як спекуляцыя ці іншае злачынства. Разыходжанне паміж прэзідэнтам і парламентам у асноўных пытаннях палітычнага парадку ў краіне не спрыяе паспяховаму вырашэнню найбольш важных заканадаўчых спраў. Напрыклад, некаторыя калгасы дзейнічаюць цяпер як акцыянерныя супольнасці, як капіталістычныя фірмы, хаця іх юрыдычнае асэнсаванне хаваецца недзе ў глыбокай сацыялістычнай мінуўшчыне.

Характэрнай рысай сучасных размоў беларускіх дыпламатаў з прадстаўнікамі нашай меншасці ў Польшчы з'яўляецца адсутнасць планаў дапамогі беларускай культуры на Беласточчыне. Раней гэта былі асноўныя тэмы доўгіх размоў, з якіх нічога канкрэтнага не выцякала. Сёння ў гэтых кантактах ёсць больш нармальнасці і ўзаемнай пашаны да суразмоўцаў. З аднаго боку ніхто нічога не прапануе і не абяцае, з другога — ніхто нічога і не чакае.

**(рэд.)**

# Меншасці за адным сталом

28 верасня г.г. адбылася ў Беластоку сустрэча ўпаўнаважанага ваяводы па пытаннях нацыянальных меншасцей з прадстаўнікамі гэтых жа меншасцей. Датычыла сустрэча справаздачы ўпаўнаважанага з яго дзейнасці ад моманту ўтварэння ў Ваяводскай управе гэтай пасады да цяперашняга часу, а таксама і прапаноў мерапрыемстваў нацыянальных меншасцей у 1997 годзе.

**Славамір Галіцкі** на пасаду ўпаўнаважанага ваяводы па пытаннях нацыянальных меншасцей назначаны быў у лютым гэтага года. Яго паўнамоцтва працягваецца год часу. Падобны функцыяй упаўнаважаны дзейнічае яшчэ ў Ольштынскім ваяводстве. Упаўнаважанага па пытаннях нацыянальных меншасцей мела таксама і Апольскае ваяводства, але ў сувязі з фінансаваннем нямецкай меншасці самой Нямеччынай яго функцыя ў гэтым ваяводстве *wypaliła się*.

Да кампетэнцыі ўпаўнаважанага, між іншым, належыць: падтрымліванне лучнасці з арганізацыямі нацыянальных меншасцей, **аналіз і ацэнка нацыянальных меншасцей** у абсягу, які вызначаецца ваяводам, аналіз і ацэнка юрыдычных законаў, якія датычаць нацыянальных меншасцей, падтрымка лакальным ініцыятывам нацыянальных меншасцей, рэагаванне на ўсякія выпадкі дыскрымінацыі, распаўсюджванне ў краіне інфармацыі пра меншасці.

Кажучы пра свае дзеянні на пасадзе ўпаўнаважанага, С. Галіцкі паведаміў сабраных прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, што апрацаваў ён **рапарт пра нацыянальныя меншасці**, якім вельмі цікавіўся прэм'ер-міністр В. Цімашэвіч. На пытанне пра даступнасць гэтага дакумента С. Галіцкі адказаў, што **рапарт для ўнутранага ўжытку**.

— Я лічу, — дадаў упаўнаважаны, — што ў дакуменце верагодная інфармацыя і з цягам часу яна ўбачыць святло.

У сустрэчы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей з упаўнаважаным ваяводы прыняў удзел таксама дырэктар Рэгіянальнага асяродка тэлебачання ў Беластоку **Казімеж Пуцілоўскі**, які ў чарговы раз абвяргнуў погляд, быццам ён супраць праграм на мовах нацыянальных меншасцей.

— Я вельмі прашу вас, — сказаў К. Пуцілоўскі, — калі нешта пачуеце, што вам не спадабаецца, звярніцеся перш да мяне, бо ў адказ на ўсе механізмы, якія прывяліся ў ход у сувязі з маёй асобай, мусіў я ўжо пісаць тлумачэнні і лісты вельмі высока.

Старшыня ГП БГКТ **Ян Сычэўскі** сказаў дырэктару тэлецэнтра, што яго выказванне пра перадачы на мовах нацыянальных меншасцяў было *szokujący*, але ўся ўзніклая сітуацыя, на думку Я. Сычэўскага, вынік...

— ...panującego w mediach szału, w którym zatraca się szacunek dla prawdziwości informacji, profesjonalizmu i obiektywizmu. Społeczeństwo jest zmęczone manipulowaniem informacją. Jaki sens ma wydawanie publicznego grosza tylko po to, aby jeden z drugim się dorywał i pisał takie rzeczy, — запытаў старшыня ГП БГКТ.

Дзеля сціплай пашаны для аб'ектыўнасці можна тут прыгадаць, што *szokujące* выказванні К. Пуцілоўскага друкаваліся ў газетах: „Kurier Poranny", „Gazeta Wyborcza", „Rzeczpospolita". Ніводная з іх не фінансуецца з публічных сродкаў.

Удзельнікі сустрэчы адзначылі вялікую ролю адукацыі грамадства ў галіне ведаў пра меншасці для згоднага сужыцця ў рэгіёне. Згадзіліся таксама, што адукацыя гэтая павінна быць адной з найважнейшых задач рэгіянальнага тэлебачання. Беласточчына, як ніякі іншы рэгіён у Польшчы, мае ўмовы, каб наладзіць тут супольнае мерапрыемства нацыянальных меншасцей, але...

— Ваяводскія ўлады — на думку ромскага дзеяча **Станіслава Станкевіча**, — павінны больш зацікавіцца фінансаваннем культуры нацыянальных меншасцей, бо зацікаўленасць гэтая далёка меншая, чым людзей і ўстаноў з-па-за Беласточчыны.

**(ам)**

# Маладыя паэты ў Гайнаўцы

27 і 28 верасня праходзіла IV Гайнаўская паэтычная восень. У яе рамках былі арганізаваныя семінары маладым паэтам, прэзентавалася Літаратурная група „Гайнаўка", ладзіліся канцэрты арганнай музыкі і вядомага спевака Станіслава Сойкі. Найважнейшай часткай мерапрыемства быў, аднак, літаратурны конкурс для моладзі сярэдніх школ. Дзякуючы супрацоўніцтву з Міністэрствам нацыянальнай адукацыі, арганізатары праз пасрэдніцтва кураторый асветы разаслалі правілы конкурсу па ўсёй Польшчы. Конкурс сустрэўся з шырокім водгукам. Сярод узнагароджаных апынуліся маладыя творцы з такіх далёкіх гарадоў як Аполе ці Вроцлаў.

Лаўрэаткай першага месца стала Кацярына Эва Здановіч з падзаблудаўскіх Крупнік. Ва ўзнагароджаным вершы прадставіла яна свет пачуццяў маладога чалавека — уражлівага, адкрытага на вонкавы свет, які часта прыносіць раны, слёзы. Цярпенне, самота, чаргаванне надзеі са страхам перад будучыняй — матывы, якія часта паўтараліся і ў іншых аўтараў.

— Узрост такі, — сказала пасля цырымоніі ўзнагароджвання бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк. — Мяне, як паланістку, цешыць пастаянны рост узроўню конкурсных прац. Сёлета, я хачу гэта падкрэсліць, было многа добрых і вельмі добрых вершаў.

Сярод узнагароджаных у гэтым годзе не было нікога мясцовага. Тым не менш, Літаратурная група „Гайнаўка" паказалася ў цікавы спосаб. Тон у ёй задаюць вучні беларускага ліцэя. Можа ў будучыні хтосьці з іх напіша нешта па-беларуску?

**М. В.**

**Уладзімір Сцьўко**

* * *

Гаворым шмат, нямала пішам,
Як быццам мы ўсе згодны з тым,
Каб мову родную ўзняць вышай
Аж да дзяржаўнасці вяршынь.

А яна бедная чуць дыша.
Ціск апусціўся ўжо на дол,
Як сэрцу — мы рэцэпт напішам...
Мове патрэбен валідол.

Ды што казаць — яна ў дзяржаве
І сёння пасынкам расце.
Мы яе „статусам" здзіўляем
З замежжа трапіўшых гасцей.

Каторы раз ужо беларусам
Трэ сваю мову ўваскрашаць.
Раней маўчала пад прымусам
І сёння голас ледзь чуваць.

А бюракрат з крывой усмешкай
З угодніцтвам глядзіць „уверх",
Хаця б сваёю моўнай спешкай
Не выклікаць там кплівы смех.

Усё дагэтуль было ціха,
Драмаў, бы ў завадзі карась.
Цяпер, няхай на яго ліха,
Хоць з кабінета не вылазь.

Бо шыльды памяняць па крамах,
Перапісаць дарожны знак,
Назваць аўтобусны прыстанак
Па-беларуску трэ аднак.

Старыя звычкі мяняць цяжка,
Хоць недзе ў глыбіні душы
Казаў сабе, што даў прамашку...
Мову забыцца паспяшаў.

Ды гэта ўсё толькі пачатак,
Да „статуса" нясмелы крок.
Можа без гербавых пячатак
Карысны будзе першы ўрок.

Давайце наша слова знізу
Як зерне сеяць у народ,
Тады і „верх" наложыць візу
Даць мове гістарычны ход.

# Саматужная адукацыя

*(працяг са стар. 1)*

прывозяць іх выпускнікі школы, якія на далейшую навуку выбраліся ў Беларусь. На ўроках, апрача мовы і літаратуры, адводзіцца месца таксама роднай гісторыі і геаграфіі. Дапаможнай тут і „Ніва", дзе змяшчаліся матэрыялы Юркі Баены па геаграфіі Беларусі, якія дзеля гэтага адбіты на школьным ксераксе. „Ніва" з'яўляецца таксама крыніцай ведаў пра мінулае Беласточчыны, якое ў іншых матэрыялах астаецца белай плямай, напр. пра трагедыю Залешанаў.

На маё пытанне, ці выкарыстоўваецца толькі друкаванае слова, атрымоўваю адказ, што ў дыдактычным працэсе прымяняецца таксама тэхніка. Маем, гаворыць Зінаіда Дэмянюк, запісаныя на магнітафоннай стужцы ўспаміны жыхароў Райска, якія слухаем падчас прысвечаных трагедыі гэтай вёскі ўрокаў. Запісваю таксама на відэакасету ўсе беларускія тэлеперадачы. На ўроках слухаем песень Данчыка, калядак. Гутарым пра Каляды і іншыя святы. Асабліва цікава атрымоўваецца, калі пра свае абрады апавядаюць праваслаўныя і католікі: вучні параўноўваюць, пазнаюць узаемна.

У ліцэй прыходзяць і вучні, якія ніколі дагэтуль не вывучалі беларускай мовы. Колькасць іх розная. Здарылася і так, што ў адным класе было такіх 19. Некаторыя баяцца гэтага прадмета, напр. у першым класе адна вучаніца не хацела да дошкі выйсці, але калі ўжо, дык адразу два радкі беспамылкова вывела. Бывае і так, што тыя, якія ў пачатковых школах не вывучалі беларускай мовы, у ліцэі выходзяць у выдатнікі па гэтаму прадмету.

Варта згануць таксама і пра артыстычную экспрэсію вучняў. У школе дзейнічаюць калектывы „Вядро" і „Дзявочыя ноткі" а таксама хор. Вучні прымаюць удзел у сцэнічных і дэкламатарскіх конкурсах і ў Алімпіядзе беларускай мовы. Выходзіць таксама школьныя газетка „Лява" — 2—3 нумары ў год — у якой вучні памяшчаюць свае творы. Рыхтуецца вось нумар, у якім адзін верш мае быць па-беларуску. Гэта таму, што няма добрага клімату для беларускамоўных аўтараў. Вось адноўчы мне, кажа сп. Дэмянюк, удалося знайсці ў аднаго вучня сшытак з напісанымі ім па-беларуску вершамі. На пытанне, чаму скрывае іх, адказаў, што калі аднойчы паслаў адзін у „Ніву", яго там так змянілі, што цяпер піша адно для сябе. А вось калі адну вучаніцу пахвалілі там, не гэта так заахвоціла, што з добрым поспехам прыняла ўдзел у літаратурным конкурсе і атрымала нават узнагароду. Вучні ахвотна пішуць, трэба ім толькі дапамагчы, заахвоціць. Патрэбная тут большая прыхільнасць; нельга гаварыць толькі дрэнна, бо крытыка і сваркі адбіраюць ахвоту да працы.

Збіраючыся ў ліцэй, я пацкху спадзяваўся, што неяк удасца мне выкрунуцца ад тэмы, якая бурай пранеслася калісьці па старонках „Нівы", пакідаючы мярзлявую абліваху: чаму вучні ў прыватнасці цураюцца мовы сваіх продкаў. Бачучы, аднак, стрыманыя да мяне адносіны, быццам да нейкага фундаменталіста, які толькі і цікуе, каб агрэсіўна паставіць гэтае пытанне, вымушу не.

Адказ на яго агульна нам усім вядомы і не месца тут на яго поўны змест, толькі на пэўныя асаблівыя вытрымкі, да якіх і абмежавалася наша гутарка. Нярэдкай з'явай у нашых сем'ях сітуацыя, калі бабуля, якая ўсё жыццё размаўляла адно „па-свойму", да ўнукаў пачынае гаварыць толькі па-„польску". Атрымоўваецца тады, што так „адукаванае" каханае ўнучаня на школьных уроках нават польскай мовы атрымоўвае адно двойкі. Беларускай мовы ў ліцэі чатыры гадзіны ў тыдзень. Калі возьмем, для прыкладу, што малады чалавек моўна актыўны 12 гадзін у суткі, следам — 84 у тыдзень, і калі дома ў яго прысутнасці адно польская гутарка, тады атрымоўваецца, што беларускай у яго менш за 4%.

Адносіны тады да мовы продкаў — гэта ўжо справа толькі культурнасці.

Гэту праблему трэба яшчэ бачыць і ў шырэйшым кантэксце — аўтарытэту беларускасці. Наглядаецца многа працэсаў, якія моцна гэтаму аўтарытэту шкодзяць. Адзін з іх — гэта сітуацыя ў Беларусі, асабліва ж апаганьванне нацыянальных сімвалаў, з якіх вынікае, што там мала каму залежыць на беларускасці. Чаму тады мае залежыць на гэтым нам, — пытаюць ліцэісты. Другая справа, гэта сваркі ў беларускіх арганізацыях. Наш ліцэй, кажа з сумам сп. Дэмянюк, пакідаюць выпускнікі з абгрунтаванай беларускай самасвядомасцю. Пойдуць у беларускія арганізацыі, раз-другі, а там адно сваркі. І адыходзяць туды, дзе зацішней. Такім шляхам ад беларускасці адышло многа вартасных людзей. У газетах таксама, калі апісваецца нейкая падзея, траціна прысвечана апісанню яе, а дзве трэці — гэта лаянка, што не так. Вось у апошнім „Часопісе", дзе пра „Басовішча" — гэта ж страшна!

Нарэшце слоў пару з дырэктарам ліцэя, сп. Навіцкай. Пытаю пра дафінансаванне навучання беларускай мовы. Дырэктар пра тое нічога не ведае. Самаўрадам на гэта прызначаны грашовыя сродкі, заўважаю. Мы пад самаўрад не падлягаем, толькі пад куратарыю, адказвае сп. дырэктар, а куратарыя грошай ніколі не мае.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Легенда пра Гацькі

За вёскай Гацькі, як кажа легенда, стаяў замак, у якім жыў пан Гаць. У гэтым замку быў храм. Туды прыходзіла жанчына з дзіцяткам, каб памаліцца. Пану гэта не падабалася. Сказаў ён, каб яна больш не прыходзіла на замак. Вяртаючыся дамоў, жанчына пераходзіла цераз мост. Мост зроблены быў са спарахнелых дошак. Дзіця пабегла наперадзе, зачапілася і ўпала ў ручай. Жанчына хацела ратаваць дзіця, скочыла ў ваду. Але дзіця патанула і жанчына таксама. Дух жанчыны стаў находзіць замак і не даваў спакою пану Гацю. Пан хацеў з гэтым пакончыць. Ён кінуў праклянце на замак і на сябе. Замак і пан праваліліся пад зямлю, а на гэтым месцы вырасла гара. Яе і сёння людзі называюць Замкавай гарой. А ад прозвішча пана пайшла сённяшняя назва мясцовасці — Гацькі.

**Аня Дзмітрук з Гацькоў, вучаніца ПШ у Храбалах**



*Аня Дзмітрук.*

## У грыбы!

Я цяпер вучуся ў шостым класе. Памятаю, што калі я была зусім малая, марыла паехаць у грыбы. Нам, беластачанам, не тое што вясковым дзецям. Яны толькі выйдуць з хаты — і ўжо збіраюць грыбы. А нам трэба ехаць, ды даволі далёка.

Бабуля і дзядуля, мама і тата часта ездзілі ў грыбы, а мяне з сабой не бралі. Усё казалі, што я яшчэ малая. Калі яны вярталіся з лесу, раскладалі грыбы на розныя кучкі: адны, найпрыгажэйшыя, бабуля марынавала, сушыла ў духоўцы, а менш прыгожыя грыбкі смажыла, тушыла, варыла з іх суп.

Я вельмі любіла назіраць, як бабуля ўсё гэта рабіла, дапамагала ёй сартаваць грыбы. Але найбольш любіла мыць тыя прыгожанькія грыбкі, якія бабуля прызначала для марынавання і ў вялікай місцы залівала іх халоднай вадой. Проста я бавілася тымі прыгожымі карычневымі і чырвонымі мокрымі галоўкамі, якія плавалі ў вадзе. А бабуля казала: „Мый, унучка, мый!"

Калі мне было шэсць гадоў, мяне нарэшце ўзялі з сабой у грыбы. Паехалі мы ўпяцярых: і бацькі, і дзед з бабуляй. Бабуля сказала, што паедзем у прыгожы лес. І сапраўды, лес быў светлы і сонечны, пахла дрэвамі і мохам. Я ўбачыла ўпершыню, як растуць грыбы, дзедка растлумачыў мне, што нельга рваць мухаморы, а пасля сярод імху мы ўбачылі



цудоўны камочак — маленькае важанятка. Вожык сядзеў ціхенька і зусім нас не баяўся. А мы яго і не чапалі.

Неўзабаве я паехала з бацькамі да другой бабулі — але на Памор'е. Заехаўшы, я спытала ў яе (а ёй было ўжо каля сямідзесяці): „Ці ты ўжо, бабуля, была калісьці ў грыбах?" Бабуля толькі ўсміхалася, а я дадала з гонарам: „Бо я ўжо, бабуля, была."

Цяпер я часта бываю ў лесе і ўмею збіраць грыбы.

**Адрыяна Семянюк**

## Развітанне з летам

Прыйшоў час бульбы капання,
Зямля — быццам мора, намокла вадой.
Сумнае з цёплым летам расстанне,
Кроплямі плача дождж.
А залатыя збожжаў нівы,
І ў небе спеў жаваранка.
Зноў будуць сумаваць за летам.
Бо восені прыйшла пара.

**Жанэта Роля, кл. VI „а" бельскай „тройкі"**

## Універсітэты на беларускай зямлі

Першай школай універсітэцкага тыпу ў Беларусі была Смаленская акадэмія, заснаваная ў 1130 годзе. Яе першым рэктарам стаў грэк Мануіл, а прыгнятаючую большасць студэнтаў складалі праваслаўныя крывічы-беларусы. Была яна адным з галоўных навукова-асветна-культурных цэнтраў у цэлай Русі.

Другі універсітэт на беларускай зямлі стварылі ў 1570 г. у Вільні езуіты. Прывілеем караля Стэфана Баторыя езуіцкая акадэмія атрымала ўсе правы еўрапейскага універсітэта і стала навуковым і асветным цэнтрам у Беларусі. Падрыхтавала яна між іншым кадры для ажыццяўлення Берасцейскай уніі. Асноўную частку студэнтаў складалі беларусы, а перш за ўсё дзеці магнатаў і шляхты. Такім чынам езуіты пераўтваралі маладых праваслаўных беларусаў у прыхільнікаў каталіцызму.

Да сярэдзіны XVII стагоддзя мовамі навучання ў гэтай установе былі беларуская і лацінская. У другой палове XVII стагоддзя беларускую мову заступіла польская. Люблінская і Берасцейская уніі шырока адкрылі брамы для паланізацыі беларускай эліты, што і паўплывала на змену характару Віленскага універсітэта.

Апрача Віленскай акадэміі ў Беларусі пры канцы XVII стагоддзя дзейнічалі яшчэ 16 езуіцкіх калегіяў і толькі адна вышэйшая праваслаўная Брацкая школа ў Вільні. Школы, арганізаваныя ордэнамі езуітаў, піяраў, дамініканцаў, бернардзінцаў былі перш за ўсё прапагандыстамі чужой культуры і веравызнання сярод беларускага насельніцтва. Беларуская эліта, выхаваная ў такіх школах, пакінула сваю старую культуру і стала служыць замежнікам. У XIX стагоддзі польска-каталіцкае школьніцтва было моцна абмежаванае. Беларусь была ўжо тады ў межах Расіі. Арганізаваная царскімі ўладамі адукацыйная сістэма ў Беларусі пераўтварала маладых беларусаў у расейскіх патрыётаў. Таму менавіта народ, які стагоддзямі быў пазбаўлены сваёй дзяржавы ды сваіх школ і універсітэтаў, мае сёння такія клопаты са сваім самавызначэннем.

## Сон пасля воўчага мяса

*(беларуская народная казка)*

У адной беднай хатцы жылі-былі дзед ды баба. Бедна жылі, гаравалі. Да таго расхварэлася баба.

— Хачу воўчага мяса, — загадала яна.

Дзед узяў сякеру і пайшоў у лес. Пад вечар угледзеў ваўка, што спаў ля старога пянька. Адсек дзед ваўку нагу і пайшоў бабу сваю лекаваць. Тая паела воўчага мяса, павесялела і кажа:

— Цяпер паспаць бы хвілінку — і палезла на цёплую печ. Толькі здрамнулася, як у дзверы нехта заламатаў. Сарвалася баба, бо прадчувала нейкае ліха. Не думаўшы ўзлезла яна на комін і чакае, што будзе. А воўк яшчэ мацней пачаў хвастом лупіць у дзверы. Хатка ў старэчаў старая была. Дзверы паламаліся, воўк у ізбу ўварваўся. Ухапіў ён бабу і панёс у лес. Там прывязаў яе да пянька, а сам за дубінай пайшоў. Баба ледзь не памерла ад жаху.

— Што тут рабіць, як ратавацца, — думае яна. Думала, думала, ды давай прыгаварваць:

*Пянёчак-пянёчак караніся,*
*пянёчак-браточак падыміся,*
*угору, угору, угору*
*падыміся, пянёчак-браточак!*

Пянёк паслухаўся бабу. Рос ён, рос, аж да неба сягнуў. Баба ўзрадавалася, што так добра ўсё скончылася. Рашылася яна і па небе пахадзіць. Ідзе, ідзе — бачыць, хатка стаіць. А ўсярэдзіне печка з сыра, лавы з цукру, сцены з пірагоў. Баба ўспомніла пра нястачы ў сваёй гаспадарцы і давай сыр, пірагі і цукар у мяшок класці. А тым часам у хатку козы прыбеглі. Пабачылі яны абдзёртую печку, паламаныя лавы і дзіравую сцяну — засумавалі. Баба пад карыта схавалася.

— Трэба адну казулю ў хатцы пакінуць, — раіліся жыхаркі.

— Няхай сядзіць і дабра сцеражэ, — дамовіліся козы і пабеглі зноў у поле працаваць. А баба шаптухай была. Вы, напэўна, і самі пра гэта здагадаліся. Памятаеце ж, як пянёк замовіла?

*Спі вочка, спі другое,*
*спі вочка, спі казуля,*
*казуля — сапуля!*

Каза хутка заснула, а баба зноў за пірагі і сыр ды цукар схапілася. Ужо мела на зямлю вяртацца, як тут козы да хаткі прыбеглі. Засумавалі яны, пабачыўшы яшчэ большую шкоду, казулю-санулю аблаялі, новую старожку назначылі. І зноў на луг пабеглі. Баба пачала і гэтую казу замаўляць:

*Спі вочка,*
*спі другое,*
*козачка сонная —*
*starочанька цёмная.*

Пашаптала баба і думала з дабром на зямлю ўцякаць. Толькі не прадбачыла, што ў старожкі тры вочкі былі. Два, праўда, заснулі, а трэцяе ўсё бачыла. Паляцела каза сяброўкам пра зладзейку наказаць. Баба таксама не чакала. Пабегла яна на месца, дзе пянёк астаўся. Але пянёк даўно ўжо на зямлю прынізіўся і пра бабу забыў. А за зладзейкай і козы рагатыя прыбеглі. Давай яе рагамі малоць, працавітасці вучыць. Баба з перапуду на зямлю ўпала. І, пэўна, забілася б... Добра, што ў гэты момант яна прачнулася. Пазней, калі і хварэла — воўчага мяса больш не хацела.

# Шляхам Хадкевічаў

Быў восеньскі „залаты” дзень. Дрэвы, хмызы, размаляваныя каляровымі фарбамі, захаплялі сваёй красой. І сонейка ярка свяціла. У такі чароўны, восеньскі дзень гарадоцкія школьнікі пабывалі на цікавай экскурсіі. Пачалася яна ў Гарадку, на Замкавай гары. Лёнік Тарасэвіч не толькі арганізаваў паездку. Ён таксама расказваў пра замак і яговых уласнікаў — Хадкевічаў.

— Я ведаю легенду пра крыж, — адазваўся Губерт Гайдучэня з чацвёртага класа. Губерт цікавіцца гісторыяй.

Цяпер захапілі яго і ўрокі беларускай мовы.

— На іх я мог бы хадзіць кожны дзень, — усхвальвае гэты цікавы прадмет хлапец.

— Гэта нашы найцікавейшыя ўрокі, — вітаюць воплескамі сваю настаўніцу Тамару Бялькевіч дзеці. Наймалодшыя, быццам кураняткі, не адступаюць яе ні на крок.

Дзве другакласніцы дэкламуюць мне вершыкі, якія пазналі ўжо на ўроках беларускай мовы.

— А мая бабка, то толькі па-беларуску гаворыць, — кажа адна дзяўчынка. І яна, як бабуля, хацела б так складна гаварыць на роднай мове. Сярод дзяцей ёсць беларускамоўныя хлопцы. Паўлік Гжэсь, як стары, паслугоўваецца гарадоцкім дыялектам.

— Я з Мангатану, — кажа ён пра сваю вуліцу.

Таксама і Андрэй Паплаўскі нядрэнна валодае гэтай мовай.

— Я беларус, — гаворыць Сава Астапчук, — бо я быў у Беларусі.

Яго словы ўзбуджаюць радасны дзіцячы смех.

На аўтобусе едзем у Заблудаў. Наш экскурсавод расказвае пра Хадкевічаў і Заблудаў у XVI стагоддзі. Тут была нават беларуская друкарня. Шкада, што не захаваўся палац Хадкевічаў! На гэтым месцы асталіся адны старыя дрэвы. Пазней мы паехалі ў Супрасль. Там наведалі праваслаўны манастыр, заснаваны ў канцы XV ст. Хадкевічамі. У музеі мы паглядзелі ацалелыя фрэскі, якія пісаў славуты іканапісец Нектарый. Уражанне рабіла і зала Архімандрыта.





*Тамара Бялькевіч са сваімі вучнямі.*

*За абедам у гасцініцы „Пушча”.*

— Тут хіба нейкі кароль жыў, — сказала адна дзяўчынка, пабачыўшы прыгожую, старую мэблю.

Наведалі мы і царкву, якая адбудоўваецца паводле старога ўзору.

Экскурсію завяршылі мы ў гасцініцы „Пушча”. Там чакаў нас смачны абед і гульні на спартыўнай пляцоўцы.

— То калі зноў збіраемся ў падарожжа? — дапытваліся задаволеныя паездкай гарадоцкія школьнікі.

— Гэта толькі пачатак! — адказалі іх апекуны.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Удзельнікі экскурсіі перадалі прывітанні нашым чытачам.*

# Мае канікулы

Летнія канікулы правёў я ў бабулі ў вёсцы Кошкі.

Кожны дзень хадзіў я ў лес, слухаў спеў птушак і лавіў рыбу.

На пачатку канікул я задумаў збудаваць зямлянку. Памагаў мне мой старэйшы брат, але і я працаваў заўзята. Праз пяць дзён зямлянка была гатовая. У вольных хвілінах (найчасцей калі падаў дождж) я клеіў каляровыя мадэлі параходаў і самалётаў. Аднойчы нам спатрэбілася невялічкая гіра. Пайшоў я са сваім дваюрадным братам у лес, дзе было вогнішча. Я кінуў у разагрэтую кварту кусок свінцу і ён расплавіўся. На другі дзень ужо з драўлянымі формамі і запасамі свінцу пайшлі мы ў лес адліваць гіркі і нам выходзілі розныя смешныя рэчы. Вядома, гэта мы рабілі з вялікай асцярожнасцю, бо і апячыся было лёгка. Калі прыйшла пара ўборкі трускалак, я з ахвотай гэта рабіў і зарабіў свае грошы. Памагаў таксама бабулі і дзядулі пры сенаванні і пры жніве. Я цяпер ведаю, што гэта нялёгкая праца. Калі памагаў, задумваўся, як мусілі калісьці людзі стамляцца, калі не было яшчэ машын. Я таксама забаўляўся з маім любімым коцікам — Бонькам.

Калі надышоў канец канікул, цяжка было развітацца з лесам, рэчкай, з Бонькам і з жыццём на вёсцы. І, здаецца мне, што кожная звычайная рэч можа быць прыгожая і цікавая.

**Андрэй Таранта**
**П.Ш. н-р 3 у Бельску-Падляшскім, кл. VI „э”**

# Дзе хто жыве

**Японскі „картачны домік”**

У Японіі дамы будуюць своеасабліва.

Падумай: вось стаіць звычайны з выгляду дом. Але прыгрэла сонейка, і ён ператвараецца ў альтанку — ад чатырох сцен засталіся толькі дзве.

Куды ж зніклі астатнія?

Справа ў тым, што ў японскім доме гэтых сцен і не было. Іх замянялі лёгкія рамы, абклееныя тонкай рысавай паперай. У любы час іх можна ссунуць, як шкло ў шафе, і тады жыхары, якія знаходзіліся ў доме, аказваюцца быццам ужо не ў доме, а на вуліцы.

У японскім доме няма, як кажуць, капітальных сцен. У ім няма і мэблі. Дарэмна ты будзеш шукаць ложак або канапу. Японцы спяць на падлозе, на тоўстых сплеценых з рысавай саломы дыванках-цыноўках.

Дык што ж, японцы не цэняць утульнасці?

Наадварот, яны славутыя на ўвесь свет майстры ўпрыгожваць сваё жытло. У доме заўсёды стаіць ваза з цудоўна падабраным букетам. А рамы-перагародкі падзяляюць дом на ўтульныя пакоі. Прычым переставляюць гэтыя рамы можна хоць кожны дзень.

Проста японцы не хочуць загрувашчваць мэбляй свае пакоі, яны цэняць кожны метр плошчы. І гэта лёгка растлумачыць: на невялікіх, па нашых мерках, астравах цяпер пражывае больш за сто мільёнаў чалавек.

І сама канструкцыя дома — таксама неабходнасць: цяжкія збудаванні ў гэтай краіне, дзе часта бываюць землетрасенні, ад падземных штуршкоў разбураюцца, а лёгкія „картачныя домікі” стаяць.

*(працяг будзе)*

# Польска-беларуская панарамная крыжаванка № 41

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 37. Лозунг: Футбольная каманда.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Юліта Харытанюк** са Старога Корніна і **Бэата Мінько** з Ласінкі.

**Віншуем!**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Język | Rdza | Pióro | | | Jama | Rosa |
| Ubiór, strój | Pępek | Ptak | | Jawor | Jawa | Mama |
| Wąż | | Twarz konia lub łosia | Jak | Rama | Jedzenie | Arab |
| Łapa | | | | Dama | Pierwsze litery alfabetu białorus. | |



Талон „Зоркі” № 41
13.10.1996

# Злачынства і кара

Адам М., ліцэіст з Беластока, правёў апошнія канікулы ў турме.

— Я прадчувала, што так будзе, — уціpae слёзы Марыя М., маці.

— Сварыўся амаль штодзённа, уцякаў з хаты, валачыўся з калегамі.

Пані Марыся — удава. Бацька Адама памёр тры гады таму. Ад гэтай пары б'ецца яна як рыба аб лёд.

— Калісь лягчэй жылося, — уздыхае мая субяседніца.

А цяпер? Пражыві, будзь ты разумны, за яе пенсію, тры з паловай мільёна. Хлопец у школу ідзе, усяго трэба, сшыткаў, абутку, нагавіц. І да кампаніі культурнай без граша не падыдзеш.

Пані Марыся ўспамінае і пра сваю хваробу. Ужо тры гады будзе як да псіхіятра ходзіць.

На сцяне яе сціплага, чыстага памяшкання віднеюцца святыя Юры і Барародзіца.

— Дзякуючы аднаму Богу я яшчэ не ў Харошчы, — плача Марыя М.

Адам

**не быў апошнім**

у гімназіі.

— Надта ж стройны, — адзначае класная сяброўка. — Маўклівы, высокі, добра апрануты. Найлепшы сябра, Раберт Д., не здзіўляецца занадта ўчынкам Адама.

— Гэта віна дзяржавы, што не цікавіцца беднымі, — перакана</br>ны ён.

Але Адам грошы заўсёды меў і пра свае праблемы нікому не гаварыў.

— Тады, калі пайшоў да бабулі, — успамінае Раберт Д., — купіў новую кашулю ў магазіне „Юніёр". У школу прынёс, паказваў.

— Skąd, bracie, masz tyle forsy, — папытаўся тады Раберт Адама.

А той нічога не адказаў, толькі пачырванеў і замяўся.

— То я падазраваў яго ў мужчынскай прастытуцыі, — смяецца Раберт.

Хлапец не любіць размаўляць пра школу.

— Я трэці год ужо не цверазею, — хвацка заяўляе Раберт. — Наркотыкі? Цяпер у кожнай школе іх дастанеш. Не дзіва, што часам літаратурныя маты вы жыццём авалодваюць.

— Бо нас ніхто не разумее, ніхто не слухае, — наракае гімназіст, — адно загады і загады нам прыдумваюць.

Выхавацелька Адама без энтузіязму гаворыць пра сённяшніх ліцэістаў.

— Калісь ліцэй быў элітай, а цяпер і тут хам'ё завялося.

Пані А. працуе з моладдзю трынаццаць гадоў і многае бачыла.

— Oni nawet księdza nie szanują, — кажа настаўніца і як доказ найбольшага хамства прыводзіць факт, што адзін з яе вучняў пры ўсіх сказаў ксяндзу: „Pierdol się z tą swoją religią".

Нядаўна дзеўка з іхняга ліцэя дзіця нарадзіла.

А пра Адама?

— Відаць не дачытаў або не разумеў „Злачынства і кары" Дастаеўскага!

**Марыў пра грошы**

Адам краў з дванаццаці гадоў. З тае пары сам апранаўся, сам карміўся і выязджаў за граніцу.

— Я марыў толькі пра грошы, — прызнаўся пазней, цудоўна турмой адменены ў прыкладнага сына і вучня.

Пелагею К. сустрэў ён у магазіне. Бабуля рабіла якраз шыкарныя пакупкі.

— Ого! — падумаў тады Адам, — бедныя толькі пад Каляды і Вялікдзень купляюць шынку. А яна, старая, ды пэўна самотная, нікому непатрэбная.

Адам пайшоў тады па слядах Пелагеі К. Два-тры месяцы круціўся пад яе вокнамі, сачыў за яе пакупкамі і ўкладам жыцця. Усё падыходзіла да „Злачынства і кары" Дастаеўскага.

— Жыццё ў яе, відаць, было не надта сумленнае, — разважаў ліцэст. — Напэўна давялося і ёй хітрыць, крыўдзіць іншых. А я, няшчасны бядняга, без граша, без кватэры, без камп'ютэра, мушу цярпець за такія, нікому непатрэбныя, бабулі.

У дзень злачынства расхварэлася маці. Адам тады зненавідзеў яе.

— Дакуль цябе гадаваць буду! — крычала хрыплым, збалелым голасам Марыя М.

Хлапец хваляваўся ў такія моманты. Бывала, што і плачам заносіўся. Тады рашыў здзейсніць свой план. У падвале чакала яго падрыхтаваная чорная сумка з прыладамі. Адам М. прышпіліў сабе значок інкасатара электрастанцыі, на якім віднела прыдуманае ім прозвішча *Jan Kowalski*

— Я з электроўні, — ветліва прадставіўся бабулі, выпінаючы грудзі са значком.

Апынуўшыся ў хаце рушыў на пакоі. У кватэры была толькі адна Пелагея К., васьмідзесяцігадовая пенсіянерка. Адзіноцтва і безабароннасць старэчы неяк разгубілі спярша ліцэіста. Праз момант авалодала ім пачуццё нерашучасці. Але зараз жа ўспомнілася сварка з маці, нястачы і грошы. Вярнуўшыся ў калідор, нервова закрыў дзверы. Тады таксама надзеў шапку-*камінярку*.

— Давай грошы к..., бо зараз заб'ю цябе, вош старую! — крыкнуў спалоханa Адам.

Пелагея К. таксама спалохалася насмерць. У яе адчайных вачах заззяла просьба пра змілаванне. Тады Адам выняў са сваёй сумкі пісталет і прыставіў яго да галавы старэчы.

— Тут табе і канец будзе, — сказаў, але не стрэліў.

Пелагея К. ад жаху ўпала на падлогу. Адам рашыў узмоцніць свае тартуры. Адарванай ад столка нагой пачаў лупіць ахвяру па галаве. Але і гэтага было мала. Схапіў Пелагею К. за шыю і пэўна задушыў бы...

— Бог мяне туды нанёс, — кажа апякунка Пелагеі К, пані Данка. — Пайду, пабачу, — падумала яна пра сваю старэчу, — можа чаго трэба?

Калі яна ўвайшла ў калідор, згледзела кашмарную сцэну. Ліцэіст, быццам чорны павук, сядзеў на Пелагеі К. і заціскаў ёй глотку.

— І цяпер гэтае відовішча мне сніцца па начах, — зацягваецца папяросай „Марс" пані Данка. — Як я пачала крычаць дзікім голасам, то людзі з вуліцы збегліся.

Пазней арыштавалі Адама, а Пелагею К. павезлі ў паліклініку. Бабуля страціла свядомасць і да сёння не мае кантакту са светам.

У турме Адам адмяніўся. Пачаў нават пісаць дзённікі, у якіх галоўным героем выступаюць яго ўнутраныя перажыванні.

„To co zrobiłem, napawa mnie wstrętem. Cały czas wyobrażam sobie, że coś może zdarzyć się mojej mamie, która jest sama".

— Кожны бы так пісаў, — не верaць Адаму класныя сябры.

**Ева Сцепанюк**

---

*każdy dzień który przystaje za ramą*
*okienną*
*zza tafli szkła przygląda się bacznie*
*człowiekowi*
*szamoczącemu się w świetle*
*jak ćma*
*nie olśniona światłem*
*a oślepiona*

***Ян Леанчук, „W drodze do Domu".***

# Сумуючы па святле

„Сумуючы па святле" — так дакладна назваў беластоцкі паэт Ян Леанчук сваю аўтарскую сустрэчу, якая прайшла 23 верасня г.г. у Беластоку, у чытальнай зале Ваяводскай публічнай бібліятэкі імя Лукаша Гурніцкага. Сустрэча была прысвечана 25-годдзю яго творчасці і выхаду ў свет у гэтым годзе чарговых трох яго кніжак: першага вялікага „Wyboru wierszy", першага тома „Zapiśnika" — збору фельетонаў — запісак солтыса, прэзентаваных у праграме Польскага Радыё ў Беластоку, а таксама новага зборніка вершаў „W drodze do Domu".

Было элегантна. Кветкі, мікрафоны. Лілася ціхая музыка з нейкага заходняга фільма. На яе фоне Ірэна Юн, варшаўская актрыса з тэатра „Studio", чытала вершы „крэсавага паэта" Яна Леанчука. Кшыштаф Кур'янюк з Беластоцкага радыёвяшчання, якое было суарганізатарам гэтага вечара, вёў сустрэчу. Прадставіў Янку Леанчука як чалавека „дваццаці шасці функцый" — паэта, старшыні Акруговай управы Саюза польскіх пісьменнікаў, выкладчыка універсітэта, селяніна, солтыса ў роднай вёсцы Лубнікі, старшыні гарадской рады ў Заблудаве, выдаўца, фельетаніста і г.д., і т.п.



А Янка, калі ўзяў слова, сцвердзіў: „Не ведаю нават, ці адчуваю сябе паэтам..." — і прадэкламаваў крыху сваіх вершаў яшчэ лепш за актрысу, хаця ў паэтаў гэта здараецца надзвычай рэдка:

*Takie proste jest życie*
*że każdy zakręt boli...*

Калі надыходзіць шэрая гадзіна — гэта для паэта час верша, падсумаванне дня, самога сябе як часткі неабсяжнага Космасу. „Словам можна забіць. Калі гэты свет такі цёмны, а я ў сярэдзіне, калі не пакажам чалавеку святла, надзеі, кахання, дык што мы варты... А чалавек, ён вітальны..."

Крышынкамі ўспамінаў паэта з „сярмяжнага дзяцінства" закончылася гэта элегантная сустрэча. Не было пытанняў і адказаў, бурнай дыскусіі, якой можна было спадзявацца. У зале сядзела ў большасці студэнцкая моладзь, якая прыйшла, відаць, паслухаць свайго выкладчыка. І таму шчырая, спантанная размова не выйшла.

Найбольш балюча, што ніхто словам не сказаў і не спытаў пра Янкавы карэнні, пра яго малую айчыну ў вёсцы Лубнікі, пра тое, што доўгія гады ён быў сябрам „Нівы", пра велізарную ролю яго перакладчыцкай дзейнасці. А перакладаў жа ён шмат твораў беларускай літаратуры — паэзію Міхася Шаховіча, Надзеі Артымовіч, Юркі Геніюша, Яна Чыквіна, Віктара Шведа, прозу Сакрата Яновіча. Цяпер перакладае вершы Галіны Тварановіч-Сеўрук і рыхтуе зборнік „Выбраныя вершы Віктара Шведа".

Спытайцеся ў Янкі Леанчука, польскага паэта, ад калі ён быў з беларускай літаратурай, і ён адкажа вам: „Ад заўсёды!" Бо палякі ў Лубніках гавораць „папросту", а калі хто скажа па-польску, дык раяць: „Гавары па-свойму — хутчэй будзе!"

У Янкавай памяці захаваўся момант, як пракаментавала калісь яго маці візіт Сакрата Яновіча ў Лубнікі: „Прыехаў да нас хітры такі чалавек: усё гаворыць і гаворыць да мяне па-нашаму. А я яму па-польску адказваю. Ого-го! А што, я яго знаю, каб з ім па-свойму гаварыць?!!"

Мо і праўда, што на публічны суд такіх спраў не выносяць. Сумуючы па святле, канчаю свае канстатацыі.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Раскіданае гняздо

**Маральна-этычная праблема музеефікацыі гістарычных мясцін**

Адным з вобразаў сучаснай Беларусі ёсць вобраз краіны раскіданых гнёздаў. Тое, што ў мінулыя стагоддзі складала яе культурны і прыродны ландшафт — маёнткі, родавыя гнёзды, дзе ткалася нацыянальная культура ва ўсіх яе праявах: мастацтве, побыце, гаспадарцы — цяпер разбурана ці знішчана.

І вось на фоне гэтага разбурэння дзіўным і неверагодным можа падацца факт існавання жывога родавага гнязда з усімі ўласцівымі гэтай сацыяльна-культурнай з'яве прыкметамі. Маю на ўвазе сядзібу роду Бэмбеляў у Мінску. У кожнага адукаванага беларуса імя гэтае на слыху. Магу сказаць упэўнена і адназначна: прадстаўнікі роду Бэмбеляў у сучаснай гісторыі культуры Беларусі адыгрывалі і адыгрываюць значную ролю.

Ануфрый Бэмбель у канцы мінулага стагоддзя быў служачым Вяліжскага казначэйства Віцебскай губерні і, паводле сямейнага падання, атрымаў дваранства. Ягоныя родныя браты, Пётра, Іван і Васіль, былі моцнымі сялянамі-гаспадарамі, высланымі ў 30-х гадах у Сібір і там расстралянымі. Сын Ануфрыя, Андрэй Бэмбель (1905—1986) — народны мастак Беларусі, аўтар барэльефа-абеліска на Плошчы Перамогі ў Мінску, аўтар выдатных скульптурных твораў, выхавацель новых талентаў, сярод якіх найбольш адметныя — Анатоль Анікейчык і Мікола Бельскі. Сын Андрэя, Алег Бэмбель, літаратурны псеўданім каторага „ЗЬНІЧ", — незвычайна адораны сучасны філосаф, паэт, музыкант, „Моцарт паэзіі" паводле вызначэння Яна Чыквіна. Гэта чалавек, які мае адвагу быць вольнаю і незалежнаю асобаю і выпадае з усіх стандартных рамак. Зборнікі ягонай духоўна-містычнай лірыкі выходзілі ў Нью-Йорку, Беластоку, але не на Беларусі. Кніга „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", выдадзеная ў Лондане ў 1985 г., зрабіла яго дысідэнтам. На літаратурнай вечарыне даследчык-літаратуразнаўца назваў Алега Бэмбеля жывой каштоўнасцю нацыі. Праўнучкі Ануфрыя, унучкі Андрэя, дочкі Алега, таксама таленавітыя асобы. Тацціяна Бэмбель, старэйшая з іх, вельмі цікава працуе ў прыкладным мастацтве. Нацыянальны музей у фондавую калекцыю набываў яе які-маляванкі. Чацвёртае пакаленне мае ад 2-х да 6-ці — Міколка, Кацярына ды Марыя. 6-гадовая Марыя паказвае музычныя здольнасці.

Але незвычайнасць сітуацыі ў тым, што чатыры апошнія пакаленні жылі ў сапраўднай родавай сядзібе. Рэч у тым, што ў 1938 г. урад Галадзеда **падараваў** мастаку Андрэю Бэмбелю дом-майстэрню з невялікім кавалкам зямлі для дрэваў і кветак як узнагароду за выдатна мастацкае афармленне інтэр'ераў Дома ўрада. Тут гадаваліся дзеці — дачка і сын. У часе вайны іх маці, таленавітая скульптар Вольга Дзядок, ратавала ў гэтым доме сваіх дзяцей ад карнікаў. Калі забілі Кубэ, іх вуліца была ў зоне карнай аперацыі, але неяк абышлося.

Пасля вайны ў доме-майстэрні нарадзілася і расло трэцяе пакаленне роду Бэмбеляў. У 1971 г. сядзіба, дзеля мэтаў горадабудаўніцтва, была перанесена на 200 м. у бок ад першапачатковага месца знаходжання і набыла новую планіроўку. І ўжо ў гэтым доме нарадзілася чацвёртае пакаленне роду. Тут ішло натуральнае жыццё людзей, з іх драмамі, таямніцамі, перажываннямі. Людзі сыходзіліся і разыходзіліся, з'язджалі і прыязджалі ізноў. **Але гэта было жыццё роду творчае інтэлігенцыі буйнога маштабу.** Сюды прыходзілі для сумоўя выдатныя дзеячы культуры, тут ствараліся творы прыгожага мастацтва, тут была напісана тая самая кніга, што нарабіла столькі шуму, тут некаторы час месцілася штаб-кватэра Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці. У сядзібе стварылася бібліятэка і вельмі багаты архіў творцаў.

Але была адна акалічнасць: супярэчнасць паміж статусам дэ-юрэ і дэ-факта. Пасля вайны наноў пабудаваная сядзіба, дэ-факта застаючыся месцам жыцця і творчасці народнага мастака Андрэя Бэмбеля і яго нашчадкаў, дэ-юрэ была ўзятая на баланс па чарзе рознымі арганізацыямі.



У 1986 г. Андрэй Ануфрыевіч пайшоў з жыцця. У сядзібе засталіся сын з сям'ёй і сем'і ягоных дочак. І вось у 1989 г. Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт раптоўна прымае рашэнне стварыць у доме-майстэрні „Музей белорусской советской скульптуры" з адсяленнем усіх членаў сям'і. Рашэнне не было абгрунтавана ніякімі экспертнымі заключэннямі. Члены сям'і не згаджаюцца з такою пастановаю і прадстаўляюць альтэрнатыўную прапанову, усведамляючы культурную каштоўнасць будынка: стварыць мемарыяльны музей скульптара Андрэя Бэмбеля з майстэрняй, кабінетам і бібліятэкаю, пад апекаваннем яго прамых нашчадкаў, гэта значыць мець у сядзібе і музейную частку, і аўтаномную жылую, прыватную.

Гэтая прапанова катэгарычна не прымаецца. Зацятым праціўнікам такой прапановы з'яўляецца адміністрацыя Саюза мастакоў. І вось ужо некалькі гадоў ідзе судовая цяжба. Ёсць шмат юрыдычных зачэпак, якія можна павярнуць і ў адзін, і ў другі бок. Найчасцей яны паварочваюцца супраць нашчадкаў мастака.

У часе цяжбы апаненты сям'і некарэктна і нават фальшыва выкарыстоўваюць пікантныя падрабязнасці прыватнага жыцця прадстаўнікоў роду і непаразуменні паміж старэйшымі яго прадстаўнікамі. Творацца ўчынкі проста брутальныя. Некалькі разоў сядзіба і яе насельнікі перажывалі штурм і гвалтоўнае высяленне. Адным разам, каб ажыццявіць акт судовага высялення, прыйшоў вялікі бамбіза, каб на руках выносіць цяжарную ўнучку народнага мастака. Усё гэта мела самыя горшыя наступствы.

Нашчадкі роду дабіваюцца адмены Гарвыканкамам недарэчнай пастановы. Справа разглядаецца і ў Кабінеце Міністраў. Гэтаю вясною Гарвыканкам вынес новую пастанову: **стварыць у сядзібе музей беларускай сучаснай скульптуры.** Але які б музей там ні быў створаны, гэта будзе музей на крыві не ў фігуральным, а ў простым значэнні гэтага слова. Зашмат ахвяраў ужо складзена. Паставіць у гэтым музеі мармуровыя і бронзавыя сапраўды творы мастацтва, зробяць мемарыяльны куток народнага мастака, ушаноўваючы ягоныя заслугі. Тым часам жывыя галінкі гэтага роду, ягоныя нашчадкі і спадкаемцы зняважаныя, надломленыя, пастаўленыя ва ўмовы фізічнага выжывання, знаходзяцца ў бядотным стане.

Сітуацыя тут неадназначная, кожны бок спрэчкі мае свой погляд на праблему. Але вырашыць яе лепш цывілізавана і гуманна. А гэткая музеефікацыя ёсць фактам антыкультуры, амаральнасці, цынізму і зрэшты парушэння правоў чалавека. І вельмі шкада, што ні ў Міністэрстве культуры, ні ў Гарвыканкаме, ні ў адміністрацыі Саюза мастакоў не бачаць маральна-этычны бок сітуацыі. І таго не бачаць, што ідзе разбурэнне такой каштоўнай і крохкай з'явы, як родавае гняздо. Канфлікт, які ўзнік у 1918 г. паміж Рэпіным і бальшавіцкімі ўладамі ў Здраўневе, мае працяг і цяпер у сядзібе Бэмбеляў.

Тое, што сёння ў розных месцах Беларусі ёсць спробы стварыць прэцэдэнт аднаўлення родавых сядзібаў, — добры знак. Дай Божа, каб надзеі калегаў у Бачэйкаве, Дудзічах, Залессі, Нясвіжы і гэтак далей спраўдзіліся, а намаганні далі плён. І ўсё ж адноўленыя маёнткі з іх інтэр'ерамі, ландшафтамі, рамёствамі, гаспадаркаю будуць мець зусім іншую якасць, таму што там будуць жыць зусім іншыя людзі. Энергетыка, якая назапашваецца з пакалення ў пакаленне, аўра роду без яго жывых носьбітаў знікае. У самым лепшым выпадку ў мемарыяльным музеі можа быць толькі нейкае набліжэнне да адгаданага духа дому і яго кансервацыя. Але не развіццё. Калі ж ёсць жывое родавае гняздо, трэба яго атуляць і берагчы, але не расцярушваць.

**Ірына Зварыка,**
*вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.*

**Пасляслоўе**

Гэты тэкст прагучаў на Міжнароднай канферэнцыі „Музеефікацыя гістарычных тэрыторый" (Менск—Засланск—Дудзічы, 21—25 чэрвеня 1995 г.). Газета „Культура", якая мелася яго надрукаваць, раптам і вельмі рэзка адмовілася ад гэтага намеру. Калі па радыё прагучаў фрагмент выступлення ў рэпартажным запісе канферэнцыі, апаненты з Саюза мастакоў учынілі лямант і скандал зрабіўшай рэпартаж карэспандэнтцы.

Не сцвярджаю, што маё меркаванне абсалютна дакладнае, але маю моцнае падазрэнне наступнага кшталту.

У 1986 г. памёр Андрэй Ануфрыевіч Бэмбель, народны мастак Беларусі. Адразу ж пачалася судовая спрэчка з боку ўдавы, мачахі сына Андрэя, супраць пасынка на права спадчыны домамайстэрні. Па законах справа магла быць вырашана на карысць сына. Але ў сярэдзіне 1987 г. сп-р Алег быў выкліканы ў ВААП, установу па ахове аўтарскіх правоў, дзе людзі ў цывільным прапанавалі яму распачаць праз савецкіх адвакатаў за мяжою судовую справу супраць выдаўцоў ягонае кнігі „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", выдадзенай у Лондане ў 1985 г. Бэмбель адмовіўся ад гэтае прапановы. І тады адкрытым тэкстам было заяўлена, што аўтар кнігі будзе мець клопат і з дахам над галавою, і з хлебам надзённым, калі ён не передумае. Ён не перадумаў. Падзеі „сядзібнае справы" мінулых з таго часу гадоў і тое, што на радзіме не надрукавана ніводнае кнігі паэта ў дзяржаўных выдавецтвах, прыводзяць да высновы, што пагроза выконвацца, распачалося і працягваецца цкаванне непакорлівага дысідэнта, якому прызначаная формула „Будзеш як усе!". Куды падзеліся тыя людзі ў цывільным? А нікуды не падзеліся. З другога боку, сядзіба ў цэнтры горада ў цяперашніх легалізаваных бізнесавых умовах — сапраўднае Эльдарада. І на гэтае Эльдарада ўжо пакладзена нечае хціве вока. Лёс паэта, лёс жывых нашчадкаў народнага мастака, правы чалавека ў цяперашняй сітуацыі мала каго цікавяць. У гэтай справе апаненты аўтара памянёнае кнігі робяць стаўку на самыя нізкія чалавечыя якасці — зайздрасць адных, помслівасць другіх, нянавісць трэціх і гэтак далей. Тое, што адбываецца, не робіць гонару нашаму грамадству (ці толькі гэта?!) і кладзе пляму на нашу культуру. **І. З.**

# Кашубы змагаюцца за мову

**З 1 верасня г.г. у Гладніцы пачалася забастоўка. Бацькі не пусцілі дзяцей у Мілашэва, дзе няма навучання кашубскай мове.**

Школа ў Гладніцы невялічкая, усяго чатыры аддзелы. Нават выпадковы наведвальнік заўважыць асаблівасці гэтай школкі. Класныя залы ўпрыгожваюць старыя карціны, фатаграфіі, кніжкі, вялізныя велікодныя пальмы, жоўта-чорны сцяг і герб з выявай паморскага грыфа. Цікава выглядаюць і парты, размаляваныя каляровымі фарбамі. Школай кіруюць кашубскія энтузіясты — сужонства Галіна і Вітальд Бароўскія. Тут апрача „звычайных" прадметаў навучаюць гісторыі, літаратуры, абрадаў і мовы кашубаў. Кашубская мова, як і ў нас беларуская, афіцыйна трактуецца тут як дадатковы прадмет. Але на практыцы такая ж важная як і польская.

— Кашубы не ёсць нейкім дадаткам! — гаворыць дырэктар Вітальд Бароўскі. — Чаму ж наша мова мае тады быць нейкім дадаткам?

— Дзеці павінны ганарыцца сваім паходжаннем, — дадае Галіна Бароўская. — Іх трэба пазбавіць комплексу непаўнацэннасці.

З поглядамі сужонства Бароўскіх згодны і бацькі дзяцей з Гладніцы. Дамагаюцца яны арганізаваць пяты клас у сваёй школе.

— У Мілашэва тады пашлем дзяцей, як увядуць там кашубскую мову, — гавораць яны.

Разам з бацькамі бастуюць Бароўскія. У Мілашэве не могуць дачакацца шасці бастуючых вучняў.

Навошта тут кашубская мова? — здзіўляецца дырэктар Ежы Левіньскі з Мілашэва. — Усе і так на перапынках па-кашубску гавораць.

— Навошта палякам польская мова, — адказваюць Бароўскія, — яны ж таксама на вуліцы, ці перапынках гавораць па-польску. **Г. К.**

# Савецкі нос

Нядаўна адна жанчына са Старыны Дубіцкай гміны расказала мне адну такую гісторыю, якой пры камуне нельга было расказваць. А было так.

Летам 1948 года была праведзена карэктура мяжы паміж СССР і Польшчай. Мяжу перасунулі ў нашым (польскім) напрамку так, што вёска Бобінка апынулася на савецкім баку, а калёніі гэтай вёскі асталіся ў Польшчы. Мая субяседніца хадзіла ў 1947 годзе ў першы клас школы ў Старыне разам з дзяцьмі з Бобінкі, а праз год усё змянілася; дзеці маглі глядзець Бобінку толькі гуляючы побач новай мяжы. Усё было добра бачнае, бо лес на граніцы яшчэ не вырас. Каля граніцы пасвіла кароўку адна бабулька, Палашка, і яна заўсёды асцерагала дзетак, каб да граніцы не падходзілі, бо можа быць бяда. І вось аднойчы, пад восень 1948 г., і дзеткі, і бабулька, і жыхары калёніі Бобінка пачулі страшэнны крык мужчыны, плач жанчын, енк і лямант. Мяжу вартавалі савецкія пагранічнікі, і калі з вёскі прыйшла новая падмена вартаўнікоў, бабулька Палашка дай іх прасіць: раскажыце, дарагія салдацікі, радзі Хрыста, што ў вашай Бобінцы сталася, што такі крык і лямант.

— Хоронят Фому и потому так дико плачут, — адказалі салдаты.

— О Божа! — пачала плакаць Палашка. — Такі малады, здаровы і добры гаспадар быў Фама, і ўжо яго няма.

Людзі, калі даведаліся пра смерць Фамы, пачалі пісаць сваякам у Бобінку пісьмы і прасіць іх, каб падрабязна расказалі, як памёр Фама. Хаця тады карэспандэнцыя сурова правяралася цэнзурай, усё-ткі неяк пранікла, што Фаму, на яго панадворку, энкавэдзісты білі чым папала і закатавалі яго насмерць.

Чым жа правініўся Фама ў камуністаў? А выключна тым, што не хацеў ісці ў калгас, які скора пасля прылучэння да БССР арганізавалі ў вёсцы. І яны наслалі на яго выраднікаў з НКУС, якія і прыкончылі яго на ягоным уласным панадворку.

Здзіўляе мяне пастава некаторых нашых, на Беласточчыне, „адданых" беларусаў, якія бароняць Лукашэнку і гавораць, што не трэба саджаць носа ў чужое проса. Ну а яны, савецкія былыя камуністы, праз 45 гадоў лезлі са сваім носам ва ўсе краіны свету; і гэта было добра... Так?

**Мікалай Панфілюк**

# Над Рэйнам

Нядаўна сябра запрапанаваў мне паездку ў Нямеччыну. Я ахвотна скарыстаў прапанову і, праехаўшы некалькі соцень кіламетраў, хачу падзяліцца ўражаннямі ад пабачанага.

У звычайны дзень на нямецкіх аўтастрадах прасторна. Аднак нейкі, малы нават, выпадак ці звужэнне трасы выклікаюць затрымку. Уражвае тады нямецкая дысцыпліна: няма паваротаў назад ці апярэджвання, толькі цярплівае, часам нават шматгадзіннае, чаканне або язда са зволненай да веласіпеднай хуткасцю.

У Кёльне затрымоўваемся над самім Рэйнам; цячэ ён тутака шырока, лянява. А на вадзе, як на нашай ольштынскай вуліцы, цесна. Плывуць вялікія баржы, малыя і вялікія судны, а таксама прагулачныя пасажырскія караблі. Рака жыве. У параўнанні з Рэйнам, Дунай у Будапешце, пра Віслу нашу і не гаворачы, выглядае пустым і неасвоеным. Шпацыруем па горадзе. Каля чыгуначнага вакзала, на стаянцы, дзе стаяць шыкоўныя аўтамабілі, валяюцца банкі з-пад напіткаў, кардонкі з-пад малака, папера. Неўзабаве, аднак, там паявяцца прыбіральшчыкі і вычысцяць усё да бляску. Заходзім у славутую кёльнскую кафедру: усярэдзіне холадна і змрочна. Праз высокія каляровыя вітражы прабіваецца сюды крыху святла. Заглядаем і ў банк: людна там, але людзей абслугоўваюць хутка.

Франкфурт-на-Майне, як і многія нямецкія гарады, пачынаецца далёка ад цэнтра. Каб заехаць у горад, трэба з'ехаць з аўтастрады. Тут можна пабачыць асаблівы парад самалётаў, якія падыходзяць да прызямлення; франкфурцкі аэрапорт — адзін з найбольшых у Еўропе.

Вяртаючыся, трапляем у горад Ганаў, дзе ў канцэртнай зале выступае Богдан Смолень. Зал на дзвесце чалавек запоўнены; самыя палякі. Рэпертуар — гэта галоўным чынам карыкатура нашай палітычнай рэчаіснасці. Слухачы добра забаўляюцца; самы актыўны атрымае ўзнагароду — бутэльку польскай гарэлкі. **Андрэй Гаўрылюк**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Каб не рэвалюцыя, большасць нашага народу так і не вярнулася б дадому. Хаос, голад, эпідэміі, рэквізіцыі, расстрэлы, выкліканыя Кастрычніцкай рэвалюцыяй, гналі наш народ на радзіму. Настальгія таксама.

Мой тата часта паўтараў, што хаця там і лепш харчаваліся многія нашы людзі, бо елі, напрыклад, толькі белы пухкі хлеб, на які маглі тут дазволіць толькі ў вялікія святы, і называецца ў нас ён пірагом, аднак не раз чулася ад старэйшых людзей жаданне: „От, каб паесці капусты са старым салам і чорным жытнім хлебам".

У Расіі нарадзілася маміна сястрычка, яна цяпер бабулька ўжо. Калі ў час вяртання дамоў пыталі яе: „Куды едзеш, Таня?", яна нязменна адказвала ўсім: „На лодіну!" Так наслухалася яна пра нязнаную яшчэ ёй радзіму.

Толькі пачалі нашы людзі на новым месцы абжывацца, гаіць свае раны, як паявілася новае няшчасце — Кастрычніцкая рэвалюцыя. Яна была новым цяжкім выпрабаваннем нашаму народу. Мноства злога і гора несла яна з сабой.

Хутка пачалі расці цэны на тавары і прадукты, а потым і ўвогуле пачалі знікаць яны з прылаўкаў. Людзі пачалі ратавацца, хто як умеў. Каб хаця сяк-так утрымацца на паверхні, пачала шукаць новых рэзерваў і дзедава сям'я. І найшла — паслалі працаваць на завод моцна непаўналетняга наймяншага сына Віктара. Спачатку працаваў ён пасыльным, а потым „паяльщиком в жестяной мастерской" парахавога завода. Працаваў па чатыры гадзіны ўдзень. Праца была напэўна нялёгкая юнаку, але была яна добрай школай жыцця.

Недахоп прадуктаў давёў да таго, што многія пачалі недаядаць, а потым і зусім галадаць. Паявіліся хваробы і эпідэміі, якіх не вельмі было чым і каму лячыць. І гэта было найстрашнейшым сюрпрызам рэвалюцыі. Голад і эпідэміі проста касілі народ. Так народы Расіі апынуліся проста ў безвыхаднай сітуацыі...

Нашым бежанцам не аставалася нічога іншага, як уцякаць дадому. І яны рушылі, але той дом іх аказаўся раптам за граніцай, за кардонам.

У выніку кровапралітных войнаў і рэвалюцый наступілі вялікія змены ў Еўропе. Пачалі распадацца імперыі, а на іх развалінах адраджацца новыя дзяржавы. Так у 1918 годзе паўстала Польшча, з нашай тэрыторыяй у межах яе.

Дарога дадому нашаму народу зноў была блуканнем па пакутах. І зноў бежанскія дарогі густа пачалі значыцца свежымі магіламі.

Адроджаная Польшча вельмі неахвотна прапускала праз граніцу бежанцаў-беларусаў. Ужо тады іх месцы рыхтавалі сваім асаднікам-каланістам. Тыднямі і месяцамі на спякоце ці холадзе трымалі іх на граніцы. Народ галадаў, мёрз, хварэў, паміраў...

З вялікай дзедавай сям'і вярталіся дадому толькі абломкі яе: мой дзед і мой тата, найстарэйшы член сям'і і наймалодшы. Адзін ужо застары, каб пачынаць жыццё нанова, а другі яшчэ замалады. А той родны дом іх — ні кала, ні двара, толькі адны папялішчы ды бур'ян і крапіва ў рост чалавека. Панадворкі, палеткі і нават вуліца параслі лясным маладняком. І непрыхільныя адносіны мясцовай польскай адміністрацыі да іх.

Такі быў пачатак дома. Але нястомны і працавіты наш народ крок за крокам, крок за крокам пачаў памаленьку ажываць і разжывацца.

Вялікай дапамогай у гэтым ажыванні была так званая Польшча. Польшчай называлі нашы людзі тыя мясцовасці, дзе жыло польскае насельніцтва, якое, як правіла, у бежанства не выганялі. І пачалося масавае „хаджэнне па Польшчы". А адтуль неслі, везлі і збожжа, і бульбу, і курачку, і цялятка, і парасятка. І хоць нялёгкая гэта была работа і заработкі, але не будзь іх, то яшчэ многім бы нашым людзям прыйшлося б памерці ад голаду.

Хадзілі на Польшчу амаль з усіх нашых сем'яў. Хадзілі таксама і мой дзед з татам. Муравалі яны там печы, паялі посуд, пакрывалі бляхай будынкі або ладзілі старыя бляшаныя дахі. Прычым галоўным спецыялістам па ўсіх гэтых работах быў не бацька, а сын. За пакрыццё аднаго палаца бляхай атрымалі цэлы воз бульбы. Хапіла яе на ўсю зіму і на пасадку вясной засталося. І так памаленьку ставалі на ногі, як у нас кажуць.

*(працяг будзе)*

# Лявіцкага абарог і Гарустовіча загарада

Здараецца, што на вяселлі старэйшыя жанчыны кажуць мужчынам, якія хочуць з імі танцаваць: „Ідзіце і скажыце музыкантам, каб зайгралі Лявіцкага абарог або Гарустовіча загараду. Як зайграюць гэтыя танцы, то буду з вамі танцаваць, а калі не — то не буду". А калі мужчына пачынае прасіць музыкантаў зайграць згаданыя мелодыі, тыя глядзяць на яго як на нейкага вар'ята. Кажуць, што такіх танцаў няма.

А справа мае свае карані ў мінулым. Каля двух кіламетраў ад хутара Хамішчызна непадалёк Семяноўкі ў Нараўчанскай гміне расцягваўся агароджаны луг Гарустовіча, а за ім — луг Лявіцкага, з абарогам. На гэтыя лугі ў свабодныя ад працы хвіліны прыходзілі хлопцы, пілі там, спявалі, гралі. Было гэта ў той час, калі модныя былі полькі і абэркі. З часам, калі гралі абэрка, сталі гаварыць, што граюць Лявіцкага абарог, а калі раздаваліся гукі полькі, то называлі яе Гарустовічавай загарадай. Так павялося называць гэтыя танцы на вясковых забавах. Калі прыйшла мода на іншыя танцы, тадышняя моладзь пажанілася і перастала хадзіць на танцавальныя вечарыны. Тады і выйшлі з моды вясковыя назвы папулярных танцаў. **Аўрора**

# Позірк у мінулае

**13 кастрычніка**

1925 г. — нар. Маргарэт Тэчэр, брытанская палітык.

1972 г. — уругвайскі самалёт „Фокер-47" з 40 пасажырамі разбіўся ў Андах. Два з паловай месяцаў пасля знайшліся 16 чалавек, якія перажылі, з'ядаючы целы сваіх спадарожнікаў.

**14 кастрычніка**

1066 г. — разгром войск англійскага караля Гаральда II войскамі Вільгельма Заваёўніка. Была гэта апошняя паспяховая інвазія чужынцаў за ўсю англійскую гісторыю.

1918 г. — у Парыжы паўстаў чэшскі ўрад, які два тыдні пазней аб'явіў паўстанне чэшскай рэспублікі.

1928 г. — нар. Роджэр Мур, англійскі акцёр.

1947 г. — на прататыпным самалёце з рэактыўным рухавіком амерыканец Чарльз Егер упершыню перавысіў суперсанічную хуткасць, дасцігаючы 1630 км/гадз.

1964 г. — пленум ЦК КПСС адклікаў Мікіту Хрушчова з пасады I сакратара ЦК і прызначыў на гэты пост Леаніда Брэжнева.

**15 кастрычніка**

961 г. — памёр каліф Кордавы Абд ар-Рахман, пры 32-гадовым панаванні якога арабская Іспанія дасцігла свайго найбольшага росквіту.

1608 г. — нар. Эванджэліста Тарычэлі, італьянскі фізік.

1814 г. — нар. Міхаіл Лермантаў, расейскі паэт.

1833 г. — памёр кампазітар Міхал Клеафас Агінскі.

1844 г. — нар. Фрыдрых Ніцшэ, нямецкі філосаф.

1952 г. — французскія археолагі адкрылі ў месапатамскім горадзе Угарыт трон фінікійскага караля са слановай косці 3500-гадовай даўнасці.

**16 кастрычніка**

1854 г. — нар. Аскар Уайльд, ірландска-англійскі паэт.

1886 г. — нар. Бэн-Гурыён, ізраільскі палітык.

1964 г. — першы выбух кітайскай атамнай бомбы.

**17 кастрычніка**

1696 г. — нар. Аўгуст III Саксонскі, польскі кароль.

1760 г. — нар. Анры Клод Сен-Сімон, французскі філосаф.

1849 г. — памёр Фрэдэрык Шапэн, польскі кампазітар.

1918 г. — венгерскі парламент аб'явіў незалежнасць ад Аўстрыі.

**18 кастрычніка**

1596 г. — раскол Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай у выніку ўзаемных анафемаў прыхільнікаў і праціўнікаў уніі з Рымам на саборах у Брэсце.

1685 г. — аб'ява ў Нант эдыкта, які абмяжоўваў рэлігійныя свабоды ў Францыі, вынікам чаго былі масавыя ўцёкі гугенотаў у Нідэрланды і Нямеччыну.

1813 г. — канец „бітвы народаў" пад Лейпцыгам, дзе расейскія і прускія войскі перамаглі войскі Напалеона Банапарта.

1978 г. — кардынал Караль Вайтыла выбраны рымскім папам; прыняў ён імя Іаана Паўла II.

1981 г. — генерал Войцех Ярузэльскі абраны I сакратаром ЦК ПАРП; быў гэта першы ў свеце выпадак выбару дзейнага вайскоўца на гэту пасаду.

**19 кастрычніка**

1879 г. — Томас Эдысан збудаваў першую электралямпу. **(Ш)**

# Парнасік

## Сакрату Яновічу

З нагоды юбілею
Шчасця я табе жадаю!
Сто гадоў каб ты пражыў
Ды заўжды здаровы быў,
Родну мову пашыраў,
Свае кніжкі выдаваў
Ды каб Крынкі весяліў
І пра нас каб не забыў.

Ад усіх нас, што чытаюць
І стараюцца пісаць:
Плённай працы мы жадаем,
Каб культуру расслаўляць!

## Грышу Марозу

Дзякуй табе, Грыша,
Што ты адазваўся,
На старонках „Нівы"
Ізноў паказаўся.
Твае словы шчырыя
Міла я чытаю
Ды табе з сям'ёю
Я шчасця жадаю.
Ты жыві багата,
Жыццём весяліся,
Не забудзь пра „Ніву",
Часцей пакажыся.
Хай цябе чытаюць
Вакол Беразова, —
Таго табе жадае
Твой прыяцель Коля.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Сонца і сум

Мяне сонца не цешыць.
Яно наводзіць сум.
Мяне мілы адрокся
ў сонечны дзень.

Сказаў: — Бывай, дарагая!
Добра было мне з табой.
Цяпер у мяне другая.
Яна прыгажэйшая, чым ты.
Словы ўдарылі, як гром.
Сонца смяялася, як раней.
Усе цешыліся надвор'ем.
Мне слёзы ліліся з вачэй.

**АЎРОРА**

## Мажэна

Летам, восенню, зімою,
нават на прадвесні
грае ў ДПС* Мажэна,
вучыць спяваць песні.
І спяваем кожны дзень.
Тэм у песень многа.
У адной пяем аб тым,
што свет поўны Бога.
Яго сляды — то кветка, лес,
горы і даліны,
слёзы маці, смех дзіцяці,
лёсу каляіны.
Варта нам усім спяваць,
пра любоў Бога расказаць.

**Мар'я ПЕНЬ**

* Dom Pomocy Społecznej — Дом грамадскай апекі.

## Шкада лета

Лета мігам праляцела,
Восень цяпер надышла,
Лепш бы сонейка нас грэла,
Чым ахутвала імгла.

Жураўлі ды іншы птушкі
Неўзабаве адляцяць.
У садах паспелі грушкі,
Ужо пара іх убіраць.

А вось там, на антыподах,
Пачынаецца вясна.
Там усё цвіце прырода,
Там у іх зімы няма.

А мне жаль дзяцей тамашніх
З-за адсутнасці ўсіх пор.
Нашы дзеці — не апошні,
У іх багатшы свету ўзор.

І не трэба шкадаваць,
Што жывем у тых краях,
Дзе снегу хоць гаці гаць,
І марозаў крыху страх.

Па зіме вясна зноў прыйдзе,
А там — лета, восень зноў.
Кожны месяц, кожны тыдзень
Нясуць нам свае шоу.

Мільганула бабіна лета.
Дождж, балота — не бяда!
І хаця патрэбна гэта,
Ды мне ўсё ж лета шкада...

**„УЛАС"**

## Вершы і жыццё

„Варта пісаць вершы і кахаць жыццё" —
Гэта заўсёды свежае адкрыццё.
Бо пісаць вершы няпроста —
Трэба дайсці да адпаведнага росту.
Можа ён быць і мастацкі;
Ды найчасцей бывае *партацкі.*
Калі ёсць свой верны сюжэт —
У літаратуру найлепшы білет.
Добра, каб верш аж спяваў,
Нас усіх праслаўляў;
Каб ён быў народны,
Актуальны і модны.
Паэт мае свой стыль:
Гэта праўда і быль.
Кожны верш мае вартасць —
Ён гасіць духовую амаральнасць,
Што пранікае да нас,
Пагарду, чужынства, маразм...
Каб рыфма ў ім блішчала,
Да сябе запрашала.
І рытм адпаведны —
Гарачы, не бледны.
І, як кажуць, каб складны,
Прыгожы і ладны.
Ёсць вершы меланхалічныя,
Сумныя, чужыя, не лірычныя.
Меланхолія — духовая хвароба,
Што цягнецца ад родаў.
Ёсць вершы ў прозе,
Якія грэюць і на марозе.
Трэба ў вершы выказаць тэму
І нашу народную праблему.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне цікавы сон. Быццам мушу я ісці праз нейкія палацовыя залы. У кожнай зале адчыняліся вялікія дзверы і ўсюды адбываліся нейкія канцэрты.

Спачатку я прайшла праз нейкую вялікую залу. Убачыла свайго старога калегу, які ўжо памёр. А ён, быццам яшчэ зусім малады, радасны такі, кажа мне: „Я чакаў тут цябе!" Пры сцяне стаяла велізарная карціна, не памятаю, што там было намалявана. А мо гэта была нейкая выставачная зала з карцінамі... Не магу ўцяміць.

І вось я ўжо на вуліцы. Бачу два велізарныя будынкі — небаскробы. Быццам там мая кватэра. Зверху гэтыя будынкі быццам старыя, а ў сярэдзіне — зусім новыя.

Гляджу, а мой балкон быццам зроблены з вікліны. Прыгожы, але як ён трымаецца?.. Што са мной будзе, Астроне?

**ГАЛЯ**

Галя! Не магу цябе ніяк пацешыць, хаця твой сон здаваўся вельмі прыгожы. Даражэнькая, карціна ў сне, або выставачная зала абазначае, што ёсць у цябе фальшывыя сябры, якія бываюць няшчырыя ў адносінах да цябе. Найгорш, што гэтыя сябры знаходзяцца ў цябе на рабоце і ты штодзённа з імі сустракаешся. Сцеражыся іх, не адкрывайся перад імі занадта, бо пры першай нагодзе яны падложаць табе свінню.

Калі ўжо ты выйшла на вуліцу і ўбачыла дамы, у адным з якіх ты жывеш, то твой балкон быў чамусьці зроблены з вікліны. Сапраўды, няпэўны, быццам нейкі кошык. Цяжка было б на такім утрымацца. Ой, спачуваю я табе. Могуць быць і даволі вялікія клопаты (здаецца, на рабоце). **АСТРОН**

# Крыжаванка

**Гарызантальна**: 3. металічны стрыжань для змацавання дошак, 8. магчымасць выбраць, 9. адміністрацыйная ўстанова, 10. прадмет паганскага культу, 11. працяжны, аднастайны гук, 13. сталіца Турцыі, 15. іспанскі жывапісец (1599—1660), 16. прадмет гандлю, 20. аўтахтон, 22. гразь са снегам, 23. касмічны сабака, 27. Герман Шыманюк, 29. паліва для рухавікоў унутранага згарання ($C_3H_8$), 30. прымяненне фізічнай сілы, здзек, 31. беларускі рок-гурт, 32. прылада для ступы, 33. боязь, 34. першы чалавек.

**Вертыкальна**: 1. ядавітая расліна, 2. дае малако, 4. рэха, 5. кісць рукі з прыгнутымі пальцамі, 6. гранічная рака між Арменіяй і Турцыяй, 7. нездаровы, 12. ганчарская вытворчасць, 14. артыкул, прысвечаны памёршаму, 16. пачуццё меры, прыстойнасць, 17. жаданне, патрабаванне, 18. біблійны прарок, 19. падлетак, кандыдат у матросы, 21. авечае мяса, 24. жаданне задаволіць свае патрэбы, 25. гаспадарка ў савецкай вёсцы, 26. доўгая вяроўка з пятлёй, 27. гарачыня, спякота. 28. продак шкарпэткі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 н-ра:**

**Гарызантальна:** Прага, пастанова, бусел, аўтар, лес, Валахія, аксаміт, хан, канал, Драва, касманаўт,ануча.

**Вертыкальна:** багацце, пасол, апора, Пастарнак, астранаўт, бланк, Раіса, лях, сан, Азнавур, ласка, драма.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва

**„Niwa"**
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

## Мільянер і хітрая кошка

*Як косць жывая ў горле...*

*Мяса з зубоў калупае відэлец...*

***Міра Лукша***

У „Ніве" пакінула косці,
А мяса павезла дамоў.
Паклікала дзеда у госці,
Якому ўжо сотня гадоў.
Сівы дзед мяском частаваўся:
Кавалак ці свой дажуе?
І Мірай ўвесь час любаваўся —
Жанчыны такой не стае.
А Міра успомніла косці —
Пабегла у „Ніву" хутчэй,
Забылася нават пра госця —
Ад мяса стары не ўцячэ.
Прысутнасць яго, нібы костка,
Што ў горле сядзіць і дзярэ...
А Міра, як хітрая кошка,
Яго да сябе не бярэ.

**Сяргей Чыгрын**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Да гандляркі на рынагчку падыходзіць поўная жанчына, бярэ курыцу, аглядае, абмацвае, важыць на далоні ды пытае:

— Чым вы гэту курыцу кармілі?

— А чаму гэта вас цікавіць?

— Бо мне самой хацелася б так пахудзець.

* * *

Жонка да мужа:

— Нашы куры перасталі несціся; трэба іх будзе парубаць.

— Думаеш, што гэта паможа?..

* * *

— Што цяпер дзеецца з мужчынамі... — уздыхае пажылая жанчына. — Усю забаву прасядзела, затое ў аўтобусе прыходзіцца стаяць...

* * *

— Што мне трэба было б вам даць, каб вы дазволілі мне пацалавацца? — пытае пажылы маладую.

— Наркоз.

* * *

— Цікава, каторы з маіх паклоннікаў будзе найбольш шкадаваць, калі я выйду замуж?..

— Думаю, што той, які з табою ажэніцца.

* * *

— Прыязджайце хутчэй! Нейкі злодзей лезе па драбіне да майго вакна.

— Вы памыліліся: вы тэлефаніруеце да пажарнікаў, а трэба званіць вам да паліцыянтаў.

— Калі мне вось менавіта пажарнікі патрэбныя, бо гэта вельмі стройны мужчына, толькі драбіна ў яго кароткая.

* * *

Жонка выязджае на курорт.

— Каханы! — звяртаецца да праводзячага яе мужа. — Пішы мне як найчасцей; з другога боку грашовага перавода адведзена месца для карэспандэнцыі.

* * *

Сакратарка ўваходзіць у бюро і бачыць, што два рабочыя выносяць з кабінета дырэктара тапчан.

— Ах маманька! — заслязілася яна. — Як мне, беспрацоўнай, прыйдзецца цяпер жыць!?

* * *

Вудзільшчык паехаў на рыбалку з жонкай. Яна балбоча безупынна, а ён, заціснуўшы зубы, сочыць за паплаўком. Урэшце ўдаецца яму злавіць рыбку.

— Ой! Бедная рыбка, — шкадуе жанчына.

— Калі б ты не адкрывала рота, нічога дрэннага яе не спаткала б.

# Ніўка




*— Ты адчуваеш, нейкая дзіўная вібрацыя?*
*— На нашым паверсе новы кабінет адкрылі.*

Мал. Марыны Гарэлавай

# У горадзе жывуць інакш

У нашым блёку жывуць 95 сем'яў, але не знаемся ўсе ўзаемна. Калі нехта ўваходзіць, не ведаеш, ці гэта свой, ці чужы. Усё-такі нейкія весткі пранікаюць праз гарадскія сцены.

Аднойчы спатыкае мяне сусед Антон і так расказвае:

— Вяртаюся я з гаража і чую, што суседка кліча дапамогі. Дзверы былі прыадкрыты, я асцярожна зазірнуў і ўбачыў, што суседка качаецца ў сутаргах па падлозе. Пабачыўшы мяне, папрасіла, каб я не ўваходзіў, а паклікаў лекара або пажарнікаў. Я хуценька вызваў лекара, які жыў на наступным паверсе. Ён быў акурат дома і неадкладна пабег да пацярпеўшай, аказваючы патрэбны паратунак. Што ёй было, ён не гаварыў; вядома — лекарская тайна.

Аднак такое загадкавае здарэнне цікаўныя суседзі не маглі пакінуць неразгаданым. Хутка пайшла чутка, што суседка тая, якая жыла адзінока, пакарысталася навейшай тэхнікай. Даўжэйшы час яна старалася прыгалубіць нейкага мужчыну, але без трывалага поспеху. Калі і пападаліся якія, дык толькі да часу, пакуль яна не абмыла і адкарміла іх, а пасля адыходзілі ад яе. І вось у газеце вычытала яна, што фірма „Sweet Johny" гарантуе тавар, які заспакойвае ўсе формы і адценні чулліваcці. У адчаі, доўга не думаючы, заказала яна вібратар. І вось, выпрабоўваючы яго, навяла яго так, што схапіў яе спазм, і то такі, што без дапамогі лекара не магла ад яго вызваліцца. Нішто так не дагодзіць жанчыне, як заходняя тэхніка — каментавалі суседзі. — Тры разы мусіў лекар бегаць па ўколы, каб супакоілася.

Неўзабаве лекар, які быў халасцяком, перасяліўся да сваёй няўдалай пацыенткі. Традыцыйныя метады аказаліся лепшымі за самую перадавую тэхніку.

**Андрэй Гаўрылюк**

# „Павядзэнні" Рэдактара П.

Слухаючы радыёперадачы, знаўца і аматар беларускага слова хутка заўважвае несустраканае дагэтуль ні ў літаратуры, ні ў публіцыстыцы, багацце беларускай мовы. Факт гэты, трэба цешыцца, толькі пацвярджае універсальнасць і жыццяздольнасць нашай мовы ў сям'і сучасных моў свету. З усіх „галасоў", якія нясуцца да нас на хвалях эфіру, перавага ў гэтым прагрэсе роднага слова належыць менавіта Рэдактару П. У яго гэта гонар мы рашылі адчыніць новую рубрыку ў „Ніве" — „Павядзэнні", што ў перакладзе на польскую мову, як напэўна вы ўжо здагадаліся, значыць „Powiedzenia". (Прыклад скланення: Н. адз. ліку — *павядзэнне*; Р. адз. ліку — *павядзэння*; Д. адз. ліку — *павядзэнню*; Т. адз. ліку — *павядзэннем*; Н. мн. ліку — *павядзэнні*; Р. мн. ліку — *павядзэнняў*; Д. мн. ліку — *павядзэнням*; Т. мн. ліку — *павядзэннямі*.)

У першым адрэзку прапануем чытачу два *павядзэнні*, якія ў беларускім асяроддзі даўно займелі належны ім *розглас* ды ўвайшлі ў моўную практыку.

**жадаць паводзін** — życzyć powodzenia;
**жадаць шмат поціскаў** — życzyć wielu uścisków.

# Дурноты

## Усё паўтараецца

Каго фігурысткі чаруюць
Сцягенцамі,
Каму свярбіць
Зноў вышукваць ворага,
І прадаецца
Нервовая інтэлігенцыя,
Пакуль што ў розніцу.
І не дорага!

## Скажы

У качкі — качаняты,
У кошкі — кацяняты,
У Каца — каціняты,
У поца — пацаняты,
У ката — катаняты.

Скажы,
Чыя радня ты?

**Рыгор Барадулін**

# Сардэчныя тайны

Шаноўнае Сэрцайка! Ты не так даўно пісала, што нейкі маладажон перажываў, калі жонка перастала яго лаяць. Гэта прымусіла яго думаць, што яна здраджвае яму, бо зусім не раўнуе яго да іншых жанчын. А я хачу табе сказаць, што ў майго брата была цалкам супрацьлеглая сітуацыя.

Яго жонка лаяла! Рабіла гэта безупынку і без ніякага сэнсу. Лаяла за ўсё, але выплывала гэта якраз з зайздрасці. Дайшло да таго, што ён не мог нават выйсці па папяросы, каб не адбыўся скандал.

Я заўважыла, што ў першыя месяцы пасля шлюбу брату нават імпанавала, што яго жонка раўнівая. Значыцца, любіць — ні то апраўдваўся ён, ні то хваліўся перад сябрамі.

Але хутка такая сітуацыя яму, відаць, надакучыла. Пачаў ён выходзіць з дому „сапраўды". Злае яго жонка, набзывае рознымі словамі, а яго, бачу, аж халера бярэ. Тады стукне ён дзвярыма і выйдзе з дому.

Жывуць яны разам з намі, усё дзеецца на вачах бацькоў. Яны гэта вельмі перажываюць. Я вучуся ў матуральным класе і мне іхнія сваркі таксама зусім лішнія. Але брат перада мной прынамсі жаліцца, а бацькам не можа сказаць ні слова.

Ну, і вісіць на мне цяпер нейкая суадказнасць за лёс брата, а я не ведаю, што рабіць.

Брат расказаў мне, што калі жонка чапляецца да яго, нешта пераварочваецца ў яго нутры. Да такой ступені ён нервуецца, што мусіць выйсці з дому. Каб жа яшчэ толькі гэта. Але ж ён цяпер сабе знайшоў дзяўчыну. Кажа, што не занадта яе кахае, але мусіць пагасіць свае эмоцыі ў сексе. Як пераспіцца з той дзяўчынай дык, — як вада з гускі. Нават не памятае, чаго чаплялася да яго жонка.

Калі брат даверыў мне сваю страшную таямніцу, я страціла спакой. Яму лягчэй, а я ж яму дала слова, што нічога не скажу нікому, нават бацькам.

Падумай, Сэрцайка, якім каменем лёг мне на сэрца гэты факт. Я ж дагэтуль верыла ў каханне, у шчаслівае сямейнае жыццё, а цяпер бачу, што ўсё гэта — як мыльны пузыр. Проста не хочацца думаць, што і мяне можа спаткаць штосьці падобнае.

Брат гаворыць, што разводзіцца ён не хоча, бо ўсё-такі кахае жонку, але і жыць інакш не можа. Растлумач жа мне, Сэрцайка, ці можна кахаць адразу дзвюх?

**Зося**

Зося! Ты яшчэ жыцця занадта не спазнала, а пачынаеш знаёміцца з ім ад прыкрых спраў. Вядома, гэта можа паўплываць на твой далейшы лёс.

Павер, што не ва ўсіх сем'ях здараецца такое, як у тваёй брата. Думаю, што немалое значэнне ва ўсім гэтым маюць паводзіны тваёй брацiхі. Яна павінна абыходзіцца з мужам далікатна, не чапляцца без патрэбы, старацца бываць усюды з ім, а такое, як кажуць, капанне на мазгі прывяло да трагічнай сітуацыі. Не скажаш ты нічога жонцы брата, дык скажуць іншыя. „Добразычлівыя" знойдуцца! Можа быць тады зусім кепска.

Але, паўтараю, што не ва ўсіх такое здараецца. Ды і твой брат не мусіў адразу скакаць да іншай у ложак, тым больш, што спалучае яго з той другою толькі секс, а не глыбокае пачуццё. А мо ён сапраўды занадта лёгка падыходзіць да жыцця і жанчын, і, магчыма, прэтэнзіі яго жонкі ад пачатку былі ў нейкай ступені абаснаваныя. Усё ж з нечага яны браліся, бо цяжка паверыць, што маладая жанчына можа быць такой сварлівай Бабай Ягою.

Пэўна не падумаў твой брат, што такія раманы, які і ён пачаў круціць з той дзяўчынай, часамі канчаюцца трагічна. Ты павінна напомніць яму пра гэта, хаця ў цябе і меншы вопыт.

Але табе гэта будзе навучка на будучыню — як не павінна ўчыняць кабета.

**Сэрцайка**